13 ліпеня 2018 | № 26 (589)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Футбол зменіць Расію

Стар. 9

3 НА ПАРОЗЕ ГРАНДЫЁЗНАГА ШУХЕРУ



4 «ДАКУМЕНТЫ Ў НАС РАСІЙСКІЯ»

Начальніца дэпартаменту па ядзернай і радыяцыйнай бяспецы МНС Беларусі (Дзяржатамнагляду) Вольга Лугаўская адказала на пытанні пра бяспеку АЭС, якая будуецца ў Астраўцы

5–7 ХТО ЯШЧЭ ЗАБУДОЎВАЎ КУРАПАТЫ?

Працягваем высвятляць абставіны пабудовы ў ахоўнай зоне нацыянальнага мемарыялу «Курапаты» рэстарацыі «Паедзем, паядзім»

10–11 «РУСКІ СВЕТ» У НАЗВАХ БЕЛАРУСКІХ ВУЛІЦ

Ідзе барацьба за тое, каб у свядомасці беларусаў ідэі «рускага свету» адчуваліся як родныя, неабходныя для духоўнага развіцця. Назвы вуліц маюць у гэтай барацьбе не апошняе значэнне

# Элемент фальклору

## Па чым гісторыкі ацэняць Аляксандра Лукашэнку?



Сяргей ПУЛЬША

На гэтым тыдні мінула 24 гады з таго часу, як Аляксандр Рыгоравіч быў абраны кіраўніком Беларусі. Амаль чвэрць стагоддзя — гэта нават забагата для таго, каб выканаць любыя перадвыбарчыя абяцанкі.

Калі ўзгадаць перадвыбарчую праграму Аляксандра Лукашэнкі 1994 года, то яна ставіла ўсяго тры мэты. На першым месцы было «прыярытэтнае рашэнне праблем эканомікі і сацыяльнай сферы — спыненне росту коштаў і збяднення насельніцтва, рух грамадства ад бездані развалу і сацыяльнага выбуху да стабільнасці і прагрэсу». Другое — «барацьба з карупцыяй, разгром мафіёзных структур, кіруючых у дзяржаве». І «аднаўленне на раўнапраўнай і ўзаемавыгаднай аснове бяздарна знішчаных сувязяў з дзяржавамі, якія ўваходзілі ў склад СССР, перш за ўсё з Расіяй і Украінай».

За амаль чвэрць стагоддзя нельга сказаць, што мэты канчаткова выкананыя. Пра «спыненне неабгрунтаванага росту коштаў» Аляксандр Лукашэнка згадвае перыядычна — звычайна, пад Новы год. Што да збяднення насельніцтва, то паводле дадзеных інстытута BEROS, за рысай абсалютнай беднасці ў нас жыве 29% насельніцтва. А паводле Белстата, 6% беларусаў выжываюць на 100 рублёў у месяц. У рэгіёнах нармальным лічыцца заробак у 300–400 рублёў, а гэта 150–200 долараў па існуючым курсе.

«Рух грамадства ад бездані развалу і сацыяльнага выбуху да стабільнасці і прагрэсу» мы бачылі нядаўна на свае вочы, у выглядзе шматлюдных пратэстаў «дармаедаў», справакаваных, найперш, самой уладай.

Барацьба з карупцыяй і разгром мафіёзных структур, на думку назіральнікаў, у Сіняковай нагадваюць рыбалку на тэлеканале National Geographic: «Злавілі, паказалі па тэлебачанні, адпусцілі». Зараз разгортваецца магутная карупцыйная справа ў медыцыне. Не менш скандальнымі з'яўляюцца памілаванні карупцыянераў і прызначэнні іх жа на кіроўныя пасады ў дзяржпрадпрыемствах.

Але, калі глядзець на барацьбу з карупцыяй, усё ж ёсць падставы для аптымізму. Станіслава Шушкевіча ў свой час адставілі за скрыню цвікоў. Зараз памочнік Лукашэнкі, інспектар па Гродзенскай вобласці Сяргей Раўнейка быў затрыманы за хабар у 200 тысяч долараў. На гэтыя грошы ён мог бы зараз (у сярэднім) набыць 10 тысяч (!!!) скрыняў цвікоў.

Хто пасля гэтага скажа, што мы сталі жыць горш?




> **Сёння Аляксандр Рыгоравіч проста абрось паказкамі і анекдотамі — як у свой час Брэжнеў**

Але нельга сказаць, што Аляксандр Лукашэнка не прыўнёс нічога пазітыўнага ў развіццё краіны, хоць і не выканаў сваіх абяцанняў. За часы яго знаходжання ва ўладзе безумоўна ўзбагаціліся беларуская філалогія і фальклярыстыка. Ці не кожны выступ беларускага кіраўніка расцягваецца на цытаты. Уладзімір Падгол штогод робіць самую яскравую падборку выказванняў Аляксандра Рыгоравіча пад назвай «Народны тэлевізар». Фраза беларускага кіраўніка пра «распранацца і працаваць» стала матыватарам для «офіснага планктону» і выклікала флэшмоб (беларусы фатаграфаваліся распранутымі на працоўных месцах), які заўважыла сусветная прэса. Дагэтуль усе згадваюць пра «нармальные чалавечаскія яйца», — і я здзіўляюся, як гэтыя словы яшчэ не сталі камерцыйным брэндам. Нашы птушкафабрыкі тут яўна недапрацоўваюць — яйкі «маладзецкія» тут і побач не стаялі.

Уладальнікі тэлефонаў на базе Android могуць спампаваць сабе аж два прыкладанні, якія даюць магчымасць чытаць цытаты беларускага кіраўніка, сказаныя ў розныя часы і з рознай нагоды.

Пры такім працяглым знаходжанні ва ўладзе Аляксандр Рыгоравіч проста абрось паказкамі і анекдотамі — як у свой час Брэжнеў. Частка з іх з'яўляецца пераробкай з савецкага мінулага, але былі і арыгінальныя знаходкі, нават з дамешкам высокіх тэхналогіяў. Напрыклад, пра кампутарны вірус «Lukashenko», які на кампутары, уласна, нічога не робіць, але выдаліць яго аніяк немагчыма.

Фалькларыстка Анастасія Астапава, беларуская даследчыца, якая жыве ў Эстоніі, абараніла дысертацыю, прысвечаную беларускаму палітычнаму фальклору пад назвай «Абмяркоўваючы беларускасць: палітычны фальклор ні там, ні сям» (Negotiating Belarusianness: Political folklore betwixt and between). Даследаванне складаецца з пяці навуковых артыкулаў, прысвечаных палітычным жартам, чуткам і нават альтэрнатыўнай біяграфіі Лукашэнкі.

Прычым, некаторыя анекдоты перакрочылі межы Беларусі, трапілі ў расійскую прастору і ператварыліся ў байкі пра кіраўніка суседняй дзяржавы. І гэта не дзіўна, бо Пуцін ад Лукашэнкі па тэрмінах прэзідэнцтва адстае не вельмі...

Аляксандр Лукашэнка вельмі любіць называць сабе «народным прэзідэнтам». Шчыра кажучы, менавіта такім ён і стаў — народным героем паказак і крылатых выказванняў. Чвэрць стагоддзя — дастатковы тэрмін для таго, каб трапіць у гісторыю, і, безумоўна, Лукашэнка ў яе ўжо патрапіў. І не выключана, што менавіта на аснове фальклору ў далейшым і будзе ацэньвацца яго дзейнасць.

Бо што мы зараз ведаем пра таго ж Брэжнева, апроч анекдотаў?

# Суд над Дзмітрыем Галко: пытанні застаюцца

Мікалай ДЗЯДОК

**У судзе Савецкага раёна пачаўся працэс па справе журналіста Дзмітрыя Галко, якога абвінавачваюць па арт. 364 КК РБ (гвалт у дачыненні да супрацоўніка міліцыі).**

Нагадаем, 25 лістапада мінулага года на кватэры, дзе ў той момант сын Дзмітрыя Ян адзначаў дзень народзінаў, адбылася даволі заблытаная гісторыя: міліцыянты знянацку вырашылі «праверыць» жытло. На свята з удзелам падлеткаў уварваліся двое супрацоўнікаў, потым да іх прыбыла падмога — Дзмітрыя і яго сына затрымалі. Падлеткі, што знаходзіліся ў хаце, у паніцы пачалі скакаць з вокнаў, адзін пры гэтым зламаў нагу.

Вынікам стала крымінальная справа супраць Галко па абвінавачванні ў збіцці міліцыянтаў. Амаль адразу пасля здарэння ён з'ехаў да жонкі ва Украіну, але ў красавіку гэтага года вярнуўся ў Беларусь, і на мяжы быў затрыманы. З таго моманту Дзмітрый знаходзіцца пад вартай. Працэс вядзе суддзя Аляксандр Якунчыхін.

Па версіі абвінавачвання, Галко не пускаў у кватэру ўчастковага, хапаў яго за куртку, парваў яе, выбіў з рук тэлефон, калі той тэлефанаваў за падмогай, і два разы ўдарыў па галаве. Аказваецца: «Галко цягнуў і штурхаў Чаркова, у выніку чаго яны перамясціліся ў кватэру».

Цікавы момант: меркаванае збіццё міліцыянта адбылося 25 лістапада 2017-га, а судмедэкспертызы, якія зафіксавалі «лёгкія цялесныя пашкоджанні», адбыліся 4 снежня 2017 года і 24 мая 2018-га.

Суддзя адразу адхіліў хадайніцтвы адваката Наталлі Мацкевіч: аб запатрабаванні карткі хуткай медычнай дапамогі міліцыянтаў і пратакола суда па адміністрацыйнай справе.

Пацярпелы Чаркоў, участковы інспектар, сцвярджае, што праходзіў міма той кватэры выпадкова — «правяраў раней судзімых асоб», і пабачыў на балконе непаўналетніх, якія «лаяліся матам, гучна грала музыка». Калі ён прыбыў на апорны пункт, стэлефанаваўся з іншым участковым — Казаноўскім, і разам яны прынялі рашэнне зайсці па адрасе. Дзверы адкрыў Дзмітрый Галко, які, нібыта, быў у стане алкагольнага ап'янення і таксама лаяўся.

Чаркоў даволі падрабязна расказаў пра свой канфлікт з Галко, аднак пры допыце адвакатам высветлілася, што ніякіх заўваг маладзёнам, якіх міліцыянт пабачыў на гаўбцы, ён не рабіў. На пытанне пра тое, ці пытаўся ён дазволу ў Галко зайсці ў памяшканне, міліцыянт сказаў, што ў адказ на гэтае пытанне Галко маўчаў, і той «расцаніў маўчанне як згоду». Тым не менш ужо праз хвіліну сцвярджаў, што Галко ўсё ж прасіў яго пакінуць памяшканне. Аб пачатку працэсуальных дзеянняў Чаркоў не паведамляў, ніякіх дакументаў на месцы не складаў.

Галко пачаў задаваць пытанні пацярпеламу. Але амаль усе яны былі знятыя суддзёй з фармулёўкай «пытанне носіць здагадкавы характар».

Другому пацярпеламу, інспектару па справах непаўнагадовых Казаноўскаму, Галко, па версіі абвінавачання, нанёс пашкоджанні ў выглядзе парванай курткі.

Казаноўскі вырашыў наведаць кватэру, бо «ўзнікла падазрэнне, што непаўнагадовых уцягвалі ў антыграмадскія паводзіны». Са словаў Казаноўскага, Галко, стоячы ў дзвярах, быў «агрэсіўна настроены». Цікавая дэталь: між тым, як міліцыянты зайшлі ў кватэру, і тым, як яны адзелі кайданкі на Галко, прайшло, па яго словах, каля 40 хвілін. Абодва міліцыянты не змаглі як след пясніць, што гэты час адбывалася.

Суд апытаў яшчэ двух міліцыянтаў, якія прыбылі на падмогу Чаркову і Казаноўскаму. Абодва не бачылі, як Галко наносіў удары ўчастковаму.

Каля 17.00 (працэс пачаўся ў 11.00), Дзмітрый заявіў хадайніцтва аб пераносе судовага пасяджэння, бо быў «не ў стане паўнавартасна працягваць працэс: рана прачнуўся, нічога не еў увесь дзень, вельмі стаміўся і кружыцца галава». Хадайніцтва абвінавачанага падтрымалі адвакат, пракурор, і нават пацярпелыя. Аднак «суд, раючыся на месцы, пастанавіў хадайніцтва адхіліць». Яно, нібыта, «з'яўляецца надуманым і накіраваным на зацягванне працэсу».

Мноства непаўнагадовых сяброў Яна, якія прысутнічалі на тым дні народзінаў, засталіся не дапытанымі і цэлы дзень чакалі ў калідоры. Суддзя некалі разоў перапытваў дзяржабвінаваўцу, ці настойвае той на допыце падлеткаў, але той быў непахісны.

У чацвер, 12 ліпеня, суд працягнуў разгляд крымінальнай справы журналіста. Напачатку Галко папрасіў занесці ў судовы пратакол, што ён кепска сябе адчувае, і таму не можа паўнавартасна ўдзельнічаць у працэсе. «З моманту этапавання ў суд мяне трымалі ў «стакане» — не давалі піць, не давалі ежы, трымалі ў кайданках», — заявіў ён.

Тым не менш, суд працягнуў дапытваць сведак. Капітан міліцыі з групы затрымання таксама даў вельмі дзіўныя паказанні. З аднаго боку, ён адзначыў, што ў дачыненні да яго ані гвалту, ані пагрозаў з боку Галко не было. З іншага, ён сказаў: «Аднак я бачыў, як Галко нанёс удары Чыркову ў раён галавы».

18-гадовы сябра Яна Галко Арсень Мацюкевіч, які скокнуў з вакна кватэры, калі туды прыйшла міліцыя,распавёў, што памятае, як Галко прасіў праваахоўнікаў пакінуць дом. Спачатку ён размаўляў з імі спакойна, але потым перайшоў на больш грубую форму. На пытанне, навошта Арсень скокнуў з вакна, хлопец адказаў: «Неяк само атрымалася». Пасля інцыдэнту ў дачыненні да Арсенія быў складзены адміністратыўны пратакол, і ён сплаціў штраф.

Суседка Галко Наталля распавяла, што ў яе ніколі не ўзнікала канфліктаў са Змітром і з падлеткамі, якія перыядычна прыходзілі ў госці. Паказанні Наталлі на судзе адрознівался ад паказанняў, якія яна давала пасля здарэння. Напрыклад, раней яна сведчыла, што Ян Галко быў «моцна п'яны», а цяпер сцвярджае, што ў яго быў проста вельмі чырвоны твар. Бойкі Галко з міліцыянтамі яна не бачыла.

16-гадовы Віталь Сячко — адзін з запрошаных на Дзень народзінаў Яна Галко — распавёў, што ў той вечар у кватэру пазванілі міліцыянты і папрасілі дакументы ў Змітра. У адказ ён папрасіў іх выйсці — міліцыянты не адрэагавалі, і тады Галко пачаў больш агрэсіўна іх спраўджваць. Пра ўдары Сячко нічога не памятае.

Працэс працягваецца.

# Андрэй Бяляўскі абскарджвае прысуд

**Былы фігурант справы «Аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» мастак-дызайнер Андрэй Бяляўскі накіраваў у Вярхоўны суд скаргу на прысуд Ленінскага раённага суда Мінска, які пакараў яго адным годам «хатняй хіміі» за захоўванне аднаго патрона.**

Спачатку Бяляўскі з дапамогай адваката спрабаваў абскардзіць прысуд у Мінскім гарадскім судзе. Аднак апеляцыйная калегія суддзяў Мінгарсуда, у якой старшынстваваў Уладзімір Сцяпурка, на пасяджэнні 27 сакавіка пакінула яго скаргу без задавальнення. У пачатку красавіка прысуд уступіў у законную сілу.

Затым Бяляўскі, ужо адбываючы пакаранне, накіраваў наглядную скаргу на імя старшыні Мінскага гарадскога суда, аднак і там довады асуджанага і яго адваката не былі пачутыя. Наступны крок — скарга ў Вярхоўны суд.

Бяляўскі і яго адвакат лічаць, што год абмежавання волі, хоць і без накіравання ў папраўчую ўстанову, пры прызнанні віны і пры раскаянні, якія мусяць змягчыць віну, — гэта вельмі жорсткае і неадэкватнае ўчынку пакаранне. Захоўванне аднаго патрона не можа несці ў сабе грамадскай небяспекі. Да таго ж суд ніяк не ўлічыў тыя два з паловай месяцы, якія Бяляўскі правёў за кратамі падчас следства па справах «Аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» і «Аб незаконным узброеным фармаванні».

Як паведаміў Андрэй, ён адразу вырашыў у сваёй справе ісці да канца. «Усё ж такі яшчэ застаюцца спадзяванні, што здаровы сэнс возьме верх і Вярхоўны суд прыме адэкватнае рашэнне», — падзяліўся думкамі Бяляўскі.

Нагадаем, Андрэй Бяляўскі быў затрыманы 21 сакавіка 2017 года і абвінавачаны па ч. 3 арт. 293 Крымінальнага кодэксу — «Навучанне і падрыхтоўка да ўдзелу ў масавых беспарадках» і арт. 287 Крымінальнага кодэкса — «Стварэнне незаконнага ўзброенага фарміравання». Адпушчаны з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе 2 чэрвеня са спыненнем справы па арт. 293 КК. Падчасператрусу адразу пасля затрымання ў яго быў знойдзены спраўны патрон.

Як толькі напрыканцы лістапада Следчы камітэт спыніў справу «Аб незаконным узброеным фармаванні», у адносінах Бяляўскага была заведзена новая справа — аб захоўванні боепрыпасу (ч.2 арт.295 КК РБ). 12 снежня Следчы камітэт прад'явіў маладому чалавеку абвінавачанне, а роўна праз месяц, 12 студзеня, у судзе Ленінскага раёна быў агучаны прысуд па гэтай справе. Суддзя Марына Запаснік прызнала Бяляўскага вінаватым па ч. 2 арт. 295 Крымінальнага кодэкса («Незаконныя выраб, набыццё, перадача ў валоданне, збыт, захоўванне, перавозка, перасылка або нашэнне агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў, выбуховых рэчываў») і прызначыла пакаранне ў выглядзе абмежавання волі тэрмінам на 1 год без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу («хатняя хімія»).

spring96.org

# «Беларуськалій» могуць пасунуць»

**Падчас выступу ў эфіры дзяржаўнага тэлебачання, расійскі прадпрымальнік Міхаіл Гуцарыеў распавёў аб планах па стварэнні ў краіне яшчэ адной вытворчасці калійных угнаенняў. Бізнесмен упэўнены, што з новым прадпрыемствам Беларусь зможа абысці свайго галоўнага канкурэнта — «Уралкалій».**



Аднак эканаміст Яраслаў Раманчук у экспрэс-каментары «Салідарнасці» адзначыў, што такі праект нясе для нашай краіны вялікія рызыкі.

— Трэба верыць не ў нейкую чарговую Меку, а паверыць у нармальны бізнес-план, — лічыць суразмоўца. — У нас гіганцкія праекты, на жаль, часта правальваюцца, таму што іх аўтары і ініцыятары памыляюцца з ацэнкай рынку. Няма сумневу, што 2 мільярды долараў можна асвоіць — а што потым, на выхадзе?

На думку эканаміста, калі Гуцарыеў кажа пра паток інвестыцый, ён сціпла забывае сказаць пра тое, што большая частка гэтых грошай — крэдыты пад дзяржаўныя гарантыі:

— Гэта значыць, што для самога бізнесмена і кампаніі, якая будуе, гэта зусім бяспройгрышны сюжэт. Як і для кітайцаў, якія гэтыя грошы далі. Але чамусьці ўсе забыліся спытаць меркаванне «Беларуськалія», пад носам у якога раце прыватны канкурэнт. У сітуацыі, калі дзяржава супрацўляецца ў продажы нават Дамоў быту і маленькіх крамак, мы, па сутнасці, аддаём прыватнай арганізацыі гіганцкія рэсурсы, якія з'яўляюцца нацыянальным багаццем. Я не бачу прычын, чаму «Беларуськалій» не мог распрацоўваць тое ж самае радовішча. Якую каштоўнасць у дадзены бізнес дадаў Гуцарыеў?

Раманчук лічыць, што калі б расійскі бізнесмен прыйшоў са сваімі ўласнымі мільярдамі долараў, тады б гэта была «іншая размова».

— А так ён пабудаваў царкву, пабудаваў дом і гасцініцу, а цяпер хоча выйсці на вельмі прыбытковы рынак. Я баюся, што ў выпадку нізкага попыту на калійныя ўгнаенні паўстане пытанне, а хто будзе іх прадаваць. Альбо Гуцарыеў са сваім прыватным праектам, альбо «Беларуськалій». Тут, я баюся, з-за Гуцарыева, які мае вельмі блізкі кантакт з Лукашэнкам, «Беларуськалій» могуць проста пасунуць. Гэта вядомы сюжэт, калі каля добрага прадпрыемства з'яўляецца прыватная структура з магутным адміністрацыйна-прававым слаявым патэнцыялам і пачынае паступова яго выцясняць, — папярэджвае эканаміст.

Пераклад НЧ

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# На парозе грандыёзнага шухеру

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Працэсы, якія назіраюцца з фінансамі ў Беларусі, не даюць расслабіцца нават у сезон адпачынкаў. Дынаміка такая, што нас можа чакаць дэфолт. Хаця дагэтуль уладам удавалася неяк выкручвацца. Ці здолеюць яны зрабіць гэта цяпер?**

Як сведчыць статыстыка Нацыянальнага банка, за паўгода беларусы праелі недзе каля мільярда долараў. Дваццаць дзявяты месяц насельніцтва Беларусі застаецца чыстым прадаўцом наяўнай валюты. За шэсць месяцаў гэтага года беларусы здалі 1,037 мільярда долараў чыстымі, за ўвесь мінулы год — 2,2 мільярда долараў, у 2016 годзе чысты продаж склаў за 2,4 мільярда долараў.

Але пры гэтым галоўны фінансавы рэгулятар адзначае: цікавасць да валютных аперацый у беларусаў у чэрвені ўпала. За месяц чысты продаж наяўнай валюты зваліўся на 26,1% да 173,9 мільёна долараў. Пры гэтым знізіўся не толькі продаж, але і купля наяўнай валюты.

Эксперты кажуць, што грамадзяне прадаюць валютныя «заначкі» (у тым ліку назапашаныя дэпазіты), імкнучыся захаваць спажыванне пры зніжэнні ўзроўню даходаў. Па разліках трохгаловай даўніны, на руках у беларусаў было прыкладна 8 мільярдаў долараў. Такім чынам, па стане на сёння, яны праелі ўжо пяць з іх.

Але запавольванне тэмпаў валютных аперацый можа сведчыць пра тое, што папярэднія разлікі былі недакладнымі, і валюты ў насельніцтва было менш. Такім чынам, своеасаблівая «падушка бяспекі» грамадзян і дзяржавы худнее. Прычым, не бяручы ў разлік згаданы вышэй «сезоны адпачынкаў», калі беларусы выдаткоўваюць валюту — але за межамі краіны.

Тым часам плаціць па крэдытах трэба не толькі людзям, але і дзяржаве. І не дзіўна, што ў гэтай сітуацыі ў Беларусі ідзе адкат па золатавалютных рэзервах. За паўгода ЗВР Беларусі зваліліся на 0,5 мільярда долараў. На 1 ліпеня рэзервы Беларусі ўпалі да 6,8 мільярда долараў у эквіваленце, і гэтае скарачэнне адбываецца другі месяц запар.

У чэрвені ўлады аддалі крэдыторам 424 мільёны долараў. Але варта зазначыць, што чэрвень выдаўся яшчэ не вельмі складаным месяцам года. У студзені ўлады аддалі 1400 мільёнаў долараў, у лютым — 470 мільёнаў, у сакавіку — 415 мільёнаў, у красавіку — 332 мільёны USD, у маі — 331 мільён. І ўсё гэта — па ранейшых пазыках.

Як вядома, гэтыя пазыкі можна альбо аддаваць адразу, альбо рэструктурызаваць (то бок адкласці). Альбо можна пагуляць у «фінансавую піраміду»: аддаваць пазыкі за кошт новых. Прыкладна так апошнім чынам беларускія ўлады і дзейнічалі. Аднак зараз праблема ў тым, што новых пазыкаў пакуль ніхто выдаваць не збіраецца.

Сумная фінансавая навіна сённяшняга тыдня — Сусветны банк звязаў выдачу крэдыту Беларусі з праграмай МВФ. «Магчымасць крэдытавання на мэты развіцця можа быць разгледжана ў будучыні ва ўвязцы з аднаўленнем праграмы з МВФ», — гаворыцца ў стратэгіі партнёрства Сусветнага банка для Беларусі.

Між тым, праграма МВФ у нас ужо два гады як замарожаная — бакі не сышліся ў меркаваннях па пытанні тэмпаў рэформ. МВФ настойваў на іх найхутчэйшым правядзенні, Беларусь планавала, як заўсёды, расцягнуць іх на нявызначаны тэрмін.

Прычым, спецыялісты Сусветнага банку вельмі шчырыя ў высновах. «Вопыт апошніх гадоў сведчыць, што ўзмацненне зацікаўленасці ў паскарэнні працэсу рэформаў больш верагодна толькі ў выпадку пагаршэння сітуацыі з прыцягненнем знешняга фінансавання... Рэзкае пагаршэнне сітуацыі ў эканоміцы можа стаць штуршком да паскарэння рэформаў, асабліва калі не ўдасца забяспечваць далейшыя дамоўленасці з Расійскай Федэрацыяй аб прадастаўленні патрабаванага аб'ёму фінансавання», — гаворыцца ў дакуменце Сусветнага банка.

Кажуць, што куля выклікае нязменныя пераўтварэнні ў мазгах, нават калі яна трапляе ў азадак. Сусветны банк і МВФ чакаюць такой «кулі», калі кіраўніцтва Беларусі асэнсуе: перамены і рэформы непазбежныя. І, падаецца, яны яе дачакаюцца — хутчэй, чым думаюць.

Зніжэнне беларускіх ЗВР абумоўлена тым, што ўлады недалічыліся валютных даходаў, якія яны яшчэ ў 2017-м заклалі ў бюджэт на 2018 год. У чэрвені гэтымі даходамі павінен быў стаць транш крэдыту Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця на 200 мільёнаў долараў.

Прычым гэты транш мы разлічвалі атрымаць у канцы 2017 года. Наступны транш — у пачатку 2018-га. Але час ішоў, грошай няма дагэтуль. У прэс-службе ЕФСР TUT.BY паведамілі, што тэрміны выдзялення грошай Беларусі не вызначаны. «Дата пасяджэння Савета Фонду па разглядзе пытання шостага траншу яшчэ не прызначаная. Пасля прыняцця рашэння Саветам Фонду па шостаму траншу будзе праведзена работа па вызначэнні новай кантрольнай даты для сёмага траншу і ацэнцы выканання яго умоваў», — адзначылі ў ЕФСР.

Нехта кажа, што Беларусь проста не выканала ўмовы ЕСФР, на якіх выдаткоўваўся крэдыт. Але, мажліва, гэта звязана з грашовымі праблемамі ў самой Расіі, якая і з'яўляецца асноўным фінансістам ЕФСР.

А тым часам нашы ЗВР і так не забяспечваюць мінімальнае пакрыццё імпарту. У такой сітуацыі ўладам застаецца альбо спадзявацца на атрыманне ад ЕФСР апошніх 400 мільёнаў долараў, альбо прадаваць дзяржмаёмасць. У адваротным выпадку да канца 2018 года ЗВР Беларусі адкоцяцца да небяспечнай рысы ў 6 мільярдаў долараў.

Да гэтага часу Беларусь выплачвала свае даўгі своечасова, не дазваляла не толькі магчымасці дэфолту (немагчымасці плаціць наогул), але нават і тэхнічных дэфолтаў (ніколі не прапускала тэрміны выплаты па пазыках). Тым не менш, з часам цяжар доўгу будзе ўяўляць сабой усё большую небяспеку. Як мяркуе фінансавы аналітык Вадзім Іосуб, калі па якіх-небудзь прычынах не атрымаецца рэфінансаваць даўгі, калі ў новых крэдытах адмовяць усе крэдыторы, пытанне аб здольнасці Беларусі вяртаць даўгі можа паўстаць на працягу года.

Але ва ўладаў ёсць і свае планы. Напрыклад, было абвешчана, што ў краіне ў другім паўгоддзі падвысяць зарплаты работнікаў бюджэтных арганізацый. Апроч таго паабяцана, што заробкі медыкаў павысяцца ўдвая. Праўда, гэтае двайное павышэнне — на працягу некалькіх гадоў, а не аднамомантна. Але ж і на гэта патрэбныя грошы.

Калі краіна знаходзіцца, проста скажам, у перадддэфолтным стане, пра якое падвышэнне заробкаў можа ісці размова? Тым больш, што гэтае падвышэнне ніяк не ўкладаецца ў рэкамендацыі ЕФСР, МВФ і Сусветнага банка...

**Пазыкі можна альбо аддаваць адразу, альбо рэструктурызаваць (то бок адкласці). Альбо можна пагуляць у «фінансавую піраміду»: аддаваць пазыкі за кошт новых. Прыкладна так беларускія ўлады і дзейнічалі**

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Васіль Палякоў

**Гомельскі чалец Аб'яднанай грамадзянскай партыі стаў яе старшынёй па выніках XVIII з'езду арганізацыі, які адбыўся 8 ліпеня ў Мінску. Ён змяніў Анатоля Лябедзьку, які кіраваў гэтай палітычнай структурай 18 гадоў.**



Але пакуль ніякіх асаблівых зменаў у АГП не будзе. Па выніках з'езду Палякоў заявіў, што «ўбудоўвацца ў сістэму ўлады цяпер не дапушчальна. Прыклад з двума дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў паказвае, што ўлада выкарыстоўвае іх у сваіх мэтах, але нічога не мяняе ў сваёй палітыцы. Супрацоўніцтва павінна быць на роўных, калі ёсць крокі ў кірунку дэмакратызацыі», — сказаў Палякоў.

Палітык таксама адзначыў, што на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах апазіцыя павінна выйсці на адзінага кандыдата. «У рамках правацэнтрысцкай кааліцыі (АГП, Рух «За Свабоду» і аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя») мы будзем працаваць над правядзеннем праймерыз. Хацелася б, каб у гэтай працэдуры ўдзельнічала шырокая кааліцыя з правых і левых сіл», — адзначыў новы старшыня АГП.

Апошнія мясцовыя выбары, як зазначыў Палякоў, паказалі, што ў грамадстве ёсць попыт на альтэрнатыўны пункт гледжання. «Мы выходзілі на выбарах на вуліцы са сцягамі. Але я лічу, што павінна быць больш пазітыву, а не акцэнту на тым, што нас б'юць і пераследуюць», — сказаў ён.



## Генадзь Фядыніч

**Прадстаўнікі прафсаюза РЭП падалі заяўкі на ўваходжанне ў 15 раённых «дармаедскіх камісій», якія ствараюцца зараз уладай. І паўсюль атрымалі адмову.**

«Пасля заявы міністра працы, што дзверы адчыненыя, і ўсе, хто хоча дапамагчы працы гэтых камісій, падавайце сваіх людзей, мы падалі ў больш чым 15 раёнаў — і паўсюль атрымалі адмову. Дык якія ж гэта камісіі? Зноў хочуць рабіць іх утоенымі ад людзей. У нас юрысты хацелі туды пайсці, каб гэта было ўсё законна, каб гэта было ўсё празрыстым. Калі чалавек з незалежнага прафсаюзу кажа, што гэта так, то яму больш паверыць, чым паверыць прадстаўніку ўлады або прадстаўнікам Федэрацыі прафсаюзаў», — кажа кіраўнік прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч.

Цяпер кіраўніцтва прафсаюза РЭП рыхтуе ліст да міністра працы з запытам аб падставах адмоваў уключыць прадстаўнікоў незалежных прафсаюзаў у склад камісій па каардынацыі работы па садзейнічанні занятасці насельніцтва і з патрабаваннем перагледзець гэтыя адмовы.

## Эдуард Ханок

**Вярхоўны суд прызнаў, што АНТ парушыў правы на імя кампазітара. Гаворка ідзе пра вечар памяці Аляксандра Ціхановіча, які здымаў тэлеканал.**



Падчас канцэрту прагучалі чатыры песні Ханка, аднак ні на працягу канцэрта, ні ў цітрах да перадачы прозвішча кампазітара ўказана не было.

Цяпер тэлеканал абавязаны выплаціць Ханку ў якасці маральнай кампенсацыі 500 рублёў. Гэта амаль удвая менш, чым заяўляў у пазове кампазітар. Але Ханка гэта не хвалюе: «Для мяне фінансавы бок не адыгрывае ролі. Я даволі забяспечаны чалавек. Гэта па-першае, — сказаў у размове з «Еўрарадыё» Ханок. — А па-другое, я ўпершыню звяртаўся ў суд. Знаёмыя мне параілі не заяўляць вялікіх грошай, бо ўсё роўна не дадуць. Таму навошта прасіць, напрыклад, пяць тысяч, а потым атрымаць 300 рублёў — і будуць усе смяяцца?»

Прысудам суда Ханок надзвычай задаволены. Цяпер ён рыхтуе пазовы супраць народных артыстаў Беларусі Ядвігі Паплаўскай і Анатоля Ярмоленкі. Па словах кампазітара, яны не згадваюць яго імя як аўтара песень на сваіх канцэртах.

«Паплаўская заявіла, што аб'яўляла мяне на ўсіх канцэртах. Гэта падман. Хай яна дакажа гэта, тады ніякіх спрэчак не будзе. Ярмоленка ні разу майго прозвішча не назваў, пры гэтым паўсюль піярыў кампазітара Іванова, які напісаў песню «Алеся». Гэта здзек з аўтара з асаблівай жорсткасцю. Паплаўская і Ярмоленка практычна прынізілі мяне да ўзроўню афіцыянта», — абураецца Ханок.



**Стрэс-тэсты даследуюць не ўсе рызыкі, звязаныя з АЭС, а толькі 5 пытанняў: землятрусы, паводкі, неспрыяльныя ўмовы надвор'я, вонкавыя прычыны (калі знікне энергазабеспячэнне ці адвод цяпла). Не разглядаюцца тэрарыстычныя атакі, падзенне самалёта ды іншыя рызыкі**

# «Дакументы ў нас расійскія»

## Пяць адказаў ад Дзяржатамнагляду на пытанні пра бяспеку БелАЭС

Іна СТУДЗІНСКАЯ, «Радыё Свабода»

**Начальніца дэпартаменту па ядзернай і радыяцыйнай бяспецы МНС Беларусі (Дзяржатамнагляду) Вольга Лугаўская адказала на пытанні «Радыё Свабода» пра бяспеку АЭС, якая будуецца ў Астраўцы.**

З дапамогай эксперта Greenpeace у галіне атамнай энергетыкі Яна Гаврэкампа і Тацяны Новікавай з «Экадому» «Радыё Свабода» сфармулявала 5 пытанняў да Дзяржатамнагляду Беларусі пра бяспеку АЭС у Астраўцы.

10 ліпеня карэспандэнтка «Свабоды» задала гэтыя пытанні на прэсавай канферэнцыі Дзяржатамнагляду Беларусі.

### Дзяржатамнагляд адзначае «пазітыўны эфект» ад стрэс-тэстаў

Беларусь у 2016 годзе добраахвотна правяла стрэс-тэсты АЭС, што будуецца пад Астраўцом і, паводле плану, павінна быць уведзеная ў дзеянне ў 2019 годзе (першы блок).

Сёлета 17 экспертаў з розных краін, а таксама прадстаўнікі Еўракамісіі і назіральнікі ад МАГАТЭ, Расіі і Ірану правялі партнёрскую праверку вынікаў стрэс-тэстаў БелАЭС. Яны знаходзіліся ў Беларусі з 12 па 16 сакавіка і з 12 па 14 чэрвеня.

Справаздача Групы еўрапейскіх рэгулятараў у сферы ядзернай бяспекі (ENSREG) была апублікаваная 4 ліпеня. У дакуменце на 74 старонках адзначаецца, што група экспертаў адрасавала беларускаму боку агулам каля 460 пісьмовых пытанняў, на якія Дзяржатамнагляд адказаў групе перад яе сакавіцкім візітам у Беларусь.

Дзяржатамнагляд сцвярджае, што стрэс-тэсты Беларускай АЭС паспяхова прайшлі еўрапейскую экспертызу. Але прызнае, што яны даследуюць не ўсе рызыкі, звязаныя з бяспекай АЭС, а толькі землятрусы, паводкі, неспрыяльныя ўмовы надвор'я. Не разглядаюцца тэрарыстычныя атакі, падзенне самалёта ды іншыя рызыкі.

«Свабода» атрымала ад Дзяржатамнагляду адказы на найбольш вострыя пытанні, якія тычацца бяспекі БелАЭС, у тым ліку падрыхтаваныя з удзелам эколагаў.

### 1. Якія прэтэнзіі выстаўлялі замежныя эксперты?

Начальніца Дэпартаменту па ядзернай і радыяцыйнай бяспецы МНС Беларусі (Дзяржатамнагляду) Вольга Лугаўская адказала, што прэтэнзій як такіх не было.

«Я б наогул не ўжывала ў кантэксце стрэс-тэстаў і любой партнёрскай праверкі такое слова, як "прэтэнзіі", бо гэта дадатковыя запасы бяспекі на выпадак непрадбачаных, экстрэмальных, з вельмі нізкай верагоднасцю падзей. Напрыклад, сярод рэкамендацый па рэагаванні на экстрэмальныя ўмовы надвор'я ёсць такая: "Дзяржатамнагляду трэба разгледзець вынікі верагоднаснага аналізу бяспекі". Ужо сёння гэты дакумент з'яўляецца абавязковым.

Па іншых кірунках нам рэкамендуюць выкарыстоўваць сімптомна арыентаваныя методыкі. Гэты інструмент яшчэ распрацоўваецца, ёсць прапановы правесці дадатковую аналітычную працу.

Выканальныя ў прынцыпе ўсе прапановы. Іншая рэч, наколькі і якім чынам гэтыя прапановы трэба рэалізоўваць», — сказала Лугаўская.

### 2. Ці вытрымае АЭС землятрус і паводку?

Вольга Лугаўская паведаміла, што цягам 30 гадоў на Нарачы працуе сейсмастанцыя, а з пачатку праектавання і будаўніцтва АЭС былі ўсталяваныя дадатковыя сейсмапункты.

«Максімальны разліковы землятрус для нашай станцыі — 7 балаў па 12-бальнай шкале. Насамрэч, праектаванне вядзецца па адпаведных мапах, якія апісваюць розныя сейсмічныя ўчасткі зямной кары, і мы адносімся якраз да той катэгорыі, якая адпавядае 7 балам.

Максімальная магнітуда ў раёне станцыі ацэньваецца ў 4,5 бала. Гаворка ідзе пра два даволі блізка размешчаныя разломы. Адзін з іх — Ашмянскі — звязаны з землятрусам 1908 года»,— сказала Лугаўская.

Пра абарону ад метэарытаў прадстаўнікі Дзяржатамнагляду нічога не сказалі, такая магчымасць не разглядаецца.

«Што да падтаплення, паводкі, у нас канфігурацыя размяшчэння атамнай станцыі такая, што мы маем 50 метраў запасу пад'ёму вады. Ацэньваліся і нізкія, і высокія тэмпературы: мінус 50 градусаў зімой і плюс 50 летам», — запэўніла кіраўніца Дзяржатамнагляду.

**«Усе патрабаванні бяспекі закладзеныя ў нашых нарматыўных дакументах, і мы адказваем за тое, што яны будуць выконвацца. Таму пытанне не ў грошах, а ў няўхільным выкананні патрабаванняў бяспекі»**



**Вольга Лугаўская:**

**«Патрабаванні бяспекі паўсюль аднолькава жорсткія»**

### 3. Ці разглядалася магчымасць тэрактаў і падзення самалёта?

Лугаўская сказала: стрэс-тэсты даследуюць не ўсе рызыкі, звязаныя з АЭС, а толькі 5 пытанняў: землятрусы, паводкі, неспрыяльныя ўмовы надвор'я, вонкавыя прычыны (калі знікне энергазабеспячэнне ці адвод цяпла).

«Не разглядаюцца тэрарыстычныя атакі, падзенне самалёта ды іншыя рызыкі. Што тычыцца тэрактаў, гэта не было прадметам вывучэння. Гаворка ідзе толькі пра прыродныя ўздзеянні», — кажа Вольга Лугаўская.

### 4. Ці выдзяляюцца дадатковыя сродкі на бяспеку БелАЭС?

Пытанні выдзялення дадатковых сродкаў не разглядаюцца, сказала кіраўніца Дзяржатамнагляду Вольга Лугаўская.

«У дадзеным выпадку наша асноўная задача — ацаніць бяспеку на адпаведнасць тым патрабаванням, якія мы вызначаем у краіне. Існуюць розныя спосабы іх рэалізацыі. І тут задача — знайсці самы аптымальны, можа, і самы танны спосаб, той, які забяспечыць іх выкананне. Усе патрабаванні бяспекі закладзеныя ў нашых нарматыўных дакументах, і мы адказваем за тое, што яны будуць выконвацца. Так што казаць пра тое, што неабходна яшчэ штосьці дадаваць, няма сэнсу. Тым больш, мы будуем новую станцыю. У тым ліку і еўрапейскія эксперты абазначылі шэраг перавагаў, навацый праекту, які даказваюць, што гэта праект сучасны. Таму пытанне не ў грошах, а ў няўхільным выкананні патрабаванняў бяспекі»,— сказала Лугаўская.

### 5. Як адрозніваюцца патрабаванні бяспекі ў Беларусі і Фінляндыі, дзе будоўлю АЭС спынілі?

Атамную станцыю «Ханхіківі» ў Фінляндыі, як і Беларускую АЭС, узводзіць падраздзяленне «Росатома» — кампанія «Атомстройэкспорт». Фінскае ўпраўленне радыяцыйнай і ядзернай бяспекі не дало станоўчага заключэння аб расійскім праекце, выказала шмат заўваг, патрабуе ўдасканалення дакументацыі. І будоўля замарожаная ўжо два гады. Чаму беларусаў цалкам задавальняе той самы праект?

Вольга Лугаўская, адказваючы на гэтае пытанне, пацвердзіла, што ў Фінляндыі і Беларусі выкарыстоўваецца адзін і той жа праект: АЭС–2006 — гэта тыпавы расійскі праект атамнай станцыі.

«Шэраг асноўных дакументаў у галіне бяспекі ў нас расійскія. Патрабаванні бяспекі і падыходы да іх рэалізацыі сфармуляваныя ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам. У нас такі шлях. А Фінляндыя — краіна, у якой зусім іншая прававая база, зусім іншыя дакументы.

Хачу падкрэсліць, што сам праект, падыходы і канцэпцыя бяспекі аднолькавыя, спосабы рэалізацыі — розныя. Я не сказала б адназначна, што ў Фінляндыі лепш, а ў Беларусі горш, і тут мы ўсё прымаем. Патрабаванні бяспекі паўсюль аднолькава жорсткія. Ну, у іх ёсць свае падыходы», — сказала Вольга Лугаўская.

***P.S.:** На думку старшыні грамадскай арганізацыі «Экадом» Тацяны Новікавай, Беларусі лепш цалкам адмовіцца ад планаў будаўніцтва АЭС, і зрабіць гэта, на думку эксперта, яшчэ не позна. Тацяна Новікава прывяла прыклад Балгарыі, дзе пасля ўсебаковай экспертызы адмовіліся ад будаўніцтва атамнай станцыі паводле расійскага праекту ў горадзе Бэленэ.*

*Ян Гаврэкамп лічыць за лепшае не ўмешвацца ў выбар беларусаў, але раіць арыентавацца на нацыянальныя інтарэсы, сярод якіх галоўныя — здароўе людзей, захаванне прыроды і бяспека.*

# Хто яшчэ забудоўваў Курапаты?

Дзяніс ІВАШЫН

**Працягваем высвятляць абставіны пабудовы ў ахоўнай зоне нацыянальнага мемарыялу «Курапаты» рэстарацыйна-забаўляльнага комплексу «Бульбаш-хол», перайменаванага пасля ў «Паедзем, паядзім».**

Як высвятляецца, непасрэдную датычнасць да пабудовы гэтага комплексу мае кампанія з Расіі, а таксама ёсць інфармацыя пра мажлівых лабістаў уласнікаў аб'екта на вышэйшым дзяржаўным узроўні.

## Расійскі след

Як паказана ў двух папярэдніх матэрыялах, кампанія СТАА «БелРэстІнвест» была, меркавана, адмыслова створана для рэалізацыі праекту пабудовы забаўляльнага комплексу «Бульбаш-хол» у ахоўнай зоне нацыянальнага мемарыялу «Курапаты». Нагадаем, 50% кампаніі належыць **СТАА «КварталМЗС»,** 33,3% — амерыканскай кампаніі з абмежаванай адказнасцю **Lenthon Realty LLC** і астатнія 16,7% — закрытай акцыянернай кампаніі з абмежаванай адказнасцю **Bealcy Investments Ltd.,** зарэгістраванай на Кіпры. Мы вырашылі вызначыць, хто з'яўляецца бенефіцыярам асноўнага ўласніка кампаніі «БелРэстІнвест» — СТАА «КварталМЗС».

Згодна з дадзенымі з Адзінага дзяржаўнага рэгістру юрыдычных асобаў і прадпрымальнікаў Беларусі (АДР), кампанія СТАА «КварталМЗС» зарэгістраваная 20 мая 2004 года Мінскім гарвыканкамам са статутным капіталам 39 200 долараў ЗША. Асноўным відам дзейнасці з'яўляецца агульная пабудова будынкаў. Юрыдычны адрас кампаніі — Мінск, завулак Казлова, 5а, офіс 3а, там жа месціцца і кампанія «БелРэстІнвест». Кіраўніком з 15 лютага 2006 года з'яўлялася Логвін Вольга Віталеўна, на гэты момант яна ўзначальвае кампанію ТАА «КварталМЗС-Буд» і да сёння працягвае займацца справаводствам «БелРэстІнвесту». Уласнікамі кампаніі з'яўляюцца: **Зайдэс Леанід Лейбавіч** (37,25%) і **ЗАТ «Ренессанс»** (62,75%), зарэгістраваная ў Расійскай Федэрацыі.

Такім чынам, маецца дакументальнае сведчанне, што да рэалізацыі праекту пабудовы забаўляльнага комплексу «Бульбашъ-хол» у ахоўнай зоне мемарыялу «Курапаты», мае дачыненне расійская кампанія. Ёй належыць большая частка кампаніі «КварталМЗС», праз якую яна кантралюе «БелРэстІнвест», з якім пад гэты комплекс укладзена дамова арэнды 1,2 га зямлі ажно да 2106 года.

Можна выказаць здагадку, што кампанія «БелРэстІнвест» — своеасаблівы таран, з дапамогаю якога ўдалося скончыць пабудову і адкрыць сумнавядомы комплекс. Гэта зразумела праз логіку ўключэння ў склад яе ўласнікаў кампаній Lenthon Realty LLC і Bealcy Investments Ltd (падрабязна пра гэта далей).

Паводле дадзеных з расійскага адзінага дзяржаўнага рэестру юрыдычных асобаў, ЗАТ «Ренессанс» створанае 16 верасня 2002 года ў Санкт-Пецярбургу і рэарганізаванае 29 верасня 2014 года са стварэннем аднайменнай новай юрыдычнай асобы ў форме ТАА. Асноўным відам дзейнасці з'яўляюцца ўкладанні ў каштоўныя паперы. Кампанія мае як мінімум пяць філіяў, генеральным дырэктарам ТАА «Ренессанс» з'яўляецца фігурант нашага першага расследавання — **Барыс Сурыс.** Стопрацэнтным уласнікам ТАА «Ренессанс» ёсць кампанія **«Tebridge Holding Corp»** (рас. «Тебридж Холдинг Корп.»). У адкрытых крыніцах інфармацыі дадзеныя пра яе практычна адсутнічаюць. Паводле Грамадскага рэестру Панамы, кампанія

Registro Público de Panamá

INFORMACIÓN DEL MAESTRO
--------------------------------------------------

FICHA: 819354
Nº DOCUMENTO: 2503470
NOMBRE DE LA SOCIEDAD: TEBRIDGE HOLDING CORP.
USUARIO: MISAPA10
FECHA DE REGISTRO: 21/11/2013 00:00:00

DATOS DE MICROFILMACIÓN
-----------------------

MONEDA: DOLARES AMERICANOS.
MONTO DE CAPITAL: 10000.00

| MIEMBROS RELADONADOS | |
|---|---|
| Cargo | Miembro |
| Suscriptor | JOSE FRANCISCO CASTRELLON |
| Suscriptor | ZULEYKA ALEMAN CALDERON |
| Director | JOSE FRANCISCO CASTRELLON |
| Director | ZULEYKA ALEMAN CALDERON |
| Director | IVONNE AREA DOMINGUEZ |
| Presidente | JOSE FRANCISCO CASTRELLON |
| Tesorero | IVONNE AREA DOMINGUEZ |
| Secretario | ZULEYKA ALEMAN CALDERON |
| Agente Residente | MATA & pnri |

зарэгістраваная 21 лістапада 2013 года са статутным капіталам у 10 тысяч долараў ЗША.

У кіраўнічым складзе кампаніі пералічаныя асобы, кожная з якіх фігуруе ў рэгістрацыйных дадзеных яшчэ больш за тысячу кампаній.

Гэта так званыя «проксіўдзельнікі», неабходныя толькі для рэгістрацыі афшорнай кампаніі. На гэты момант дакладна не вядома, хто за ёй стаіць.

## Зноў «КварталМЗС-Буд»

Раней мы пісалі, што праз рэарганізацыю кампаніі СТАА «КварталМЗС» была створаная новая юрыдычная асоба — ТАА «КварталМЗС-Буд» — меркавана, адмыслова для будаўніцтва ў 2014 годзе жылога комплексу «Паркавы» ў зялёнай зоне мінскага мікрараёна Масюкоўшчына. Мы выказалі здагадку, што гэтая кампанія мае непасрэднае дачыненне да «Групы кампаніяў «ІВ».

Мы вырашылі спраўдзіць гэта дакументальна. У выпісе з АДР пазначанае, што ТАА «КварталМЗС-Буд» зарэгістраваная 30 снежня 2011 года Мінскім гарвыканкамам і **створаная ў выніку рэарганізацыі праз вылучэнне з кампаніі СТАА «КварталМЗС».** Юрыдычны адрас створанай кампаніі — Мінск, вул. Казлова, 7б, пакой 300 (будынак кампаніі «ІВ»). Галоўным відам дзейнасці з'яўляецца набыццё і продаж уласнай нерухомай маёмасці. Статутны фонд складае **ўсяго 10 (!) беларускіх рублёў.** Уласнікамі «КварталМЗС-Буд» з'яўляюцца: Сініцкая Марына Алегаўна (50%) і ТАА «КорпКансалт-Інвест» (50%).

Кіраўніком кампаніі, як было сказана вышэй, з 5 чэрвеня 2014 года з'яўляецца Логвін Вольга Віталеўна. У сваю чаргу, кампанія ТАА «КорпКансалт-Інвест», паводле выпісаў з АДР, належыць Ізраілевічу Аркадзю Львовічу (50%) і Вяліцкаму Аляксандру Владленавічу (50%).

Згодна з **п.4 арт.54 Грамадзянскага Кодэксу РБ,** падчас вылучэння са складу юрыдычнай асобы адной ці некалькіх юрыдычных асобаў кожнай з іх паводле падзяляльнага балансу **пераходзяць правы і абавязкі рэарганізаванай юрыдычнай асобы.** Праз дакументальна засведчаную правапераемнасць маем фактычнае пацвярджэнне, што Аркадзь Ізраілевіч праз афіляваныя з ім кампаніі мае сувязь з забудоўнікамі забаўляльнага комплексу «Бульбаш-хол».

## Кіпр? Расія? Беларусь?

Адной з кампаніяў, пра ўласнікаў якой дагэтуль не было выяўлена аніякай інфармацыі, ёсць Bealcy Investments Ltd. Гэтай таямнічай кіпрскай кампаніі належаць 14,5% ТАА «Белнаватэкс груп» і 16,7% СТАА «БелРэстІнвест» — даччынай кампаніі СТАА «КварталМЗС». З дапамогаю выведкі адкрытых крыніц інфармацыі (OSINT) і дадзенымі з АДР мы паспрабавалі вызначыць афіляваныя з кампаніяй Bealcy Investments Ltd. структуры і асобы. У выніку была выяўленая інфармацыя, якая сведчыць пра верагоднасць лабіявання на вышэйшым дзяржаўным узроўні ўсіх пытанняў, звязаных з пабудовай у ахоўнай зоне Курапатаў забаўляльнага комплексу і яго сённяшняй дзейнасцю.

Ва ўсіх выпісах з АДР гэтая кампанія фігуруе як Закрытая акцыянерная кампанія з абмежаванай адказнасцю «Билси Инвестментс Лимитед» з кіпрскім рэгістрацыйным нумарам 227109. Згодна з дадзенымі гандлёвага рэестру Кіпра, яна зарэгістраваная 9 красавіка 2008 года. Па інфармацыі Міністэрства юстыцыі Беларусі, на тэрыторыі нашай краіны былі зарэгістраваныя дзве кампаніі з назвай «Билси»: **ТАА «Білсі-Рыэлт»** і **СТАА «Білсі».** Першая кампанія зарэгістраваная Мінскім гарвыканкамам 25 чэрвеня 2013 года і створаная ў выніку рэарганізацыі праз вылучэнне з **Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Белтрансфер».** Юрыдычны адрас ТАА «Білсі-Рыэлт» — Мінск, завулак Казлова, 7/г, пакой 303 (будынак комплексу адміністратыўных пабудоваў кампаніі «ІВ»). Асноўны від дзейнасці «Білсі-Ры-

| СВЕДЕНИЯ О СОБСТВЕННИКЕ ИМУЩЕСТВА (УЧРЕДИТЕЛЯХ, УЧАСТНИКАХ)*** | |
|---|---|
| Физические лица**** | |
| Фамилия, собственное имя, отчество (если таковое имеется) (страна гражданства) | Зайдес Леонид Лейбович (Республика Беларусь) |
| Дата включения в ЕГР | 20.05.2004 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 37,25%, 14596 (денежный), доллар США |
| Юридические лица | |
| Полное наименование юридического лица, регистрационный номер* (страна происхождения) | ЗАО "РЕНЕССАНС", 780526902 (Российская Федерация) |
| Дата включения в ЕГР | 20.05.2004 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 62,75%, 24604 (денежный), доллар США |

| СВЕДЕНИИ О СОБСТВЕННИКЕ ИМУЩЕСТВА (УЧРЕДИТЕЛЯХ, УЧАСТНИКАХ)*** | |
|---|---|
| Физические лица**** | |
| Фамилия, собственное имя, отчество (если таковое имеется) (страна гражданства) | Синицкая Марина Олеговна (Республика Беларусь) |
| Дата включения в ЕГР | 09.04.2014 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 50%, 5 (денежный), Белорусский рубль (BYN) |
| Юридические лица | |
| Полное наименование юридического лица, регистрационный номер* (страна происхождения) | Общество с ограниченной ответственностью "КорлКоисалт-Инвест", 192741810 (Республика Беларусь) |
| Дата включения в ЕГР | 04.05.2018 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 50%, 5 (денежный), Белорусский рубль (BYN) |

| СВЕДЕНИЯ О СОБСТВЕННИКЕ ИМУЩЕСТВА (УЧРЕДИТЕЛЯХ, УЧАСТНИКАХ)*** | |
|---|---|
| Физические лица**** | |
| 1 | |
| Фамилия, собственное имя, отчество (если таковое имеется) (страна гражданства) | Израилевич Аркадий Львович (Республика Беларусь) |
| Дата включения в ЕГР | 01.12.2016 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 50%, 50 (денежный), Белорусский рубль (BYN) |
| 2 | |
| Фамилия, собственное имя, отчество (если таковое имеется) (страна гражданства) | Белицкий Александр Владленович (Республика Беларусь) |
| Дата включения в ЕГР | 21.12.2016 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 50%, 50 (денежный), Белорусский рубль (BYN) |

# Хто яшчэ забудоўваў

элт» — здача ў арэнду ўласнай нерухомай маёмасці. Паводле выпісу з АДР, яе ўласнікамі з 4 жніўня 2014 года з'яўляюцца грамадзянка РБ **Бекбулатава Кацярына Леанідаўна** (1%) і кіпрская «Bealcy Investments Ltd.» (99%). Таксама з 25 чэрвеня 2013 года па 4 жніўня 2014 года ўласнікамі кампаніі былі грамадзяне РБ: **Азаранка Вячаслаў Міхайлавіч** і **Азаранка Ларыса Іванаўна.**

15 красавіка 2015 года «Білсі-Рыэлт» спыніла сваю дзейнасць у сувязі з рэарганізацыяй у форме далучэння да кампаніі СТАА «Білсі».

Сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Білсі» зарэгістравана Мінскім гарвыканкамам 7 кастрычніка 2008 года. Яго ўласнікамі з'яўляюцца тыя ж асобы, што і далучанай да яе кампаніі «Білсі-Рыэлт» — Кацярына Бекбулатава і «Bealcy Investments Ltd.». Розняцца толькі іх долі — 75% і 25% адпаведна.

Асноўным відам дзейнасці кампаніі таксама з'яўляецца наданне ў арэнду ўласнай нерухомай маёмасці. Характэрна, што падчас рэгістрацыі была пазначаная электронная пошта (potockaya@sagmel.by) з даменным імем серверу фармацэўтычнай карпарацыі **«SagMel Inc.»,** якая раней належала фігурантам нашага першага расследавання ў гэтай тэме — Ляону Сагальчыку і Антону Меліхаву.

Характэрна, што электронную пошту для кантактаў з гэтым жа даменным імем (medvedska@sagmel.by) пазначыла і кампанія ТДА «Белтрансфер», з якой была вылучаная «Білсі-Рыэлт». Гэтая «мацярынская» кампанія займаецца дыстрыбуцыяй фармацэўтычнай і парфумава-касметычнай прадукцыі. У шматлікіх гандлёвых базах дадзены пададзены кантактны адрас кампаніі — Мінск, завул. Казлова, 7/г-102, — зноў будынак кампаніі «IB». У гэтым жа будынку, у якім месцілася і кампанія «Білсі-Рыэлт», у пакоі 404а знаходзілася і прадстаўніцтва фармацэўтычнай карпарацыі «SagMel» у Беларусі, потым прададзенай кампаніі Bayer HealthCare і ліквідаванай уласнікам 1 жніўня 2017 года.




Цікава, што паводле запісаў з гандлёвага рэестру ад 31 сакавіка 2015 года, у суседнім пакоі 401а зарэгістраваны аб'ект аптовага гандлю замежнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства — «Белтрансфер-Мед». У рэестры ўласнікаў мытных складоў на тэрыторыі Беларусі, а таксама ў каталогу беларускіх арганізацыяў і адмыслоўцаў у сферы аховы здароўя пададзена адна з ранейшых поўных назваў кампаніі — Замежнае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства аптовага гандлю «Белтрансфер-Мед» кампаніі «Сагмел, Інк».

Гэтая, мажліва, даччыная структура кампаніі «Белтрансфер» займаецца рэалізацыяй фармацэўтычных і медычных тавараў і прэпаратаў. З улікам гэтай інфармацыі, зразумела, што ўсе пералічаныя вышэй кампаніі звязаныя паміж сабой і афіляваныя, меркавана, з колішнімі ўласнікамі амерыканскай фармацэўтычнай карпарацыі «SagMel» Ляонам Сагальчыкам і Антонам Меліхавым.

Кампанія «Белтрансфер» здзяйсняе сваю дзейнасць не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ва Украіне. На сайце Міністэрства эканамічнага развіцця і гандлю Украіны ёсць інфармацыя пра задзейнічанне ў дачыненні да яе яшчэ ў 1999 годзе санкцыйнага рэжыму. Таксама вядома, што меркаваная магілёўская філія кампаніі — «Белтрансфер МГ» — была ліквідаваная і выключаная з АДР Беларусі ў 1997 годзе праз здзяйсненне дзейнасці без адпаведнай ліцэнзіі.

## Бізнес па-сяброўску

Генеральным дырэктарам ТДА «Белтрансфер» і адным з першых уласнікаў ТАА «Білсі-Рыэлт» з'яўляецца **Азаранка Вячаслаў Міхайлавіч.** Нарадзіўся ў 1964 годзе, меркавана ў Магілёве, мае грамадзянства Расіі. Займаўся лёгкай атлетыкай, у адкрытых крыніцах захоўваюцца дадзеныя па спартовыя вынікі яго ўдзелу ў Елгаўскім марафоне ў 1988 годзе. Беларускае прадстаўніцтва кампаніі «SagMel», віцэ-прэзідэнтам якой ён быў, у сярэдзіне 2000-х гадоў дапамагала магілёўскай спартовай школе. Апроч гэтага прадстаўніцтва ў тыя часы выступала адным з арганізатараў штогадовых прабегаў у Магілёве на прызы чэмпіёну СССР па марафоне Віктара Мазгавога, пераможцаў якіх Азарэнка ўзнагароджваў асабіста.

Пазначаны падчас дзяржаўнай рэгістрацыі кантактны тэлефон СТАА «Білсі» (8017 301-91-45) таксама выкарыстоўвае прадпрыемства **ТАА «Фартыва Мед».** Меркавана, гэта яшчэ адзін актыў Сагальчыка, Меліхава і Азаранкі. Гэта ўскосна пацверджана праз удзел у 2015 годзе Вячаслава Азаранкі ў дзелавой праграме першай міжнароднай выставы «Expo-Russia Belarus 2015» і першага Мінскага бізнес-форуму ў якасці прадстаўніка кампаніі «Фартыва Мед». Круглы стол быў арганізаваны супольна з Міністэрствам аховы здароўя РБ і меў назву «Пра правядзенне ўзгодненай палітыкі ў сферы аховы здароўя ў межах рэалізацыі Канцэпцыі сацыяльнага развіцця Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі». Варта зазначыць, што на гэтую канферэнцыю была запрошаная **абмежаваная колькасць** прадстаўнікоў беларускіх прыватных фармацэўтычных кампаній.

Адметна, што Вячаслаў Азаранка апроч расійскага, цалкам мажліва, мае грамадзянства ЗША. Спецыялізаваныя пошу-

**СВЕДЕНИИ О СОБСТВЕННИКЕ ИМУЩЕСТВА (УЧРЕДИТЕЛЯХ, УЧАСТНИКАХ)*****

| | |
|---|---|
| **Физические лица****** | |
| Фамилия, собственное имя, отчество (если таковое имеется) (страна гражданства) | Бекбулатова Екатерина Леонидовна (Республика Беларусь) |
| Дата включения в ЕГР | 04.08.2014 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 1%, 100000 (денежный), Белорусский рубль (BYR) |
| **Юридические лица** | |
| Полное наименование юридического лица, регистрационный номер* (страна происхождения) | Закрытая акционерная компания с ограниченной ответственностью "Билси Инвестментс Лимитед", 227109(Республика Кипр) |
| Дата включения в ЕГР | 04.08.2014 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 99%, 9900000 (денежный), Белорусский рубль (BYR) |
| История участников | |
| с 25.06.2013 по 04.08.2014 | Азаренко Вячеслав Михайлович (Республика Беларусь) |
| с 25.06.2013 по 04.08.2014 | Азаренко Лариса Ивановна (Республика Беларусь) |

**СВЕДЕНИЯ О СОБСТВЕННИКЕ ИМУЩЕСТВА (УЧРЕДИТЕЛЯХ, УЧАСТНИКАХ)*****

| | |
|---|---|
| **Физические лица****** | |
| Фамилия, собственное имя, отчество (если таковое имеется) (страна гражданства) | Бекбулатова Екатерина Леонидовна (Республика Беларусь) |
| Дата включения в ЕГР | 07.10.2008 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 75%, 51763708 (денежный), Белорусский рубль (BYR) |
| **Юридические лица** | |
| Полное наименование юридического лица, регистрационный номер* (страна происхождения) | Закрытая акционерная компания с ограниченной ответственностью "БИЛСИ ИНВЕСТМЕНТС ЛИМИТЕД", 227109 (Республика Кипр) |
| Дата включения в ЕГР | 07.10.2008 |
| Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 25%, 17254569 (денежный), Белорусский рубль (BYR) |



Дом сям'і Ляона Сагальчыка

# Курапаты?


OFFICE OF THE ILLINOIS SECRETARY OF STATE
JESSE WHITE
SECRETARY OF STATE

LLC MANAGERS

| Entity Name | POLARIS INVESTMENT LLC | File Number | 02584476 |
| --- | --- | --- | --- |

| Name | Address |
| --- | --- |
| SAGALCHIK, LEON | 4858 CHRISTINE CT, LONG GROVE, IL - 60047 |
| AZARENKO, VIACHESLAV | 4858 CHRISTIN CT, LONG GROVE, IL - 60047 |
| MELIKHOV, ANTHONY | 21607 STONEYBROOK CT, KILDEER, IL - 60047 |
| ELFIND, SALVINA | 1524 SUMTER DROOK CT, LONG GROVE, IL - 60047 |

кавыя і рыэлтарскія сервісы пазначаюць адно з яго месцаў жыхарства ва ўласным доме сям'і Ляона Сагальчыка ў прадмесці Чыкага па адрасе: 691 Wake Robin Ln, Highland Park, Lake County, Il 60035.

Двухпавярховы мураваны дом, збудаваны ў 2008 годзе, мае пяць спальняў, два каміны, гараж і падземны басейн. Агульная плошча складае прыблізна 1,34 акры, рынкавы кошт дому каля 3 мільёнаў долараў. Наданне Ляонам Сагальчыкам прытулку Вячаславу Азаранку можа сведчыць пра тое, што яны маюць не толькі дзелавыя стасункі, але і шчыльныя сяброўскі сувязі. Шмат іх аб'ядноўвае і з Антонам Меліхавым — перадусім праз кампанію «SagMel, Inc.» і меркаваныя супольныя пазначаныя вышэй актывы ў Беларусі. Апроч гэтага з дапамогаю канцыляры амерыканскага штату Ілінойс было вызначана, што ўсе трое з'яўляюцца ўласнікамі яшчэ адной зарэгістраванай кампаніі ў ЗША — **Polaris Investment LLC.**

Гэтыя асобы маюць актывы і ў Расійскай Федэрацыі. Вячаслаў Азаранка з'яўляецца кіраўніком і адзіным уласнікам інвестыцыйнай кампаніі **ТАА «Арт-инвест групп»**, зарэгістраванай 11 верасня 2008 года ў Маскве. Асноўны від дзейнасці кампаніі — падрыхтоўка да продажу ўласнай нерухомай маёмасці, апроч гэтага яна займаецца аптовым гандлем насеннем і зернем. «Арт-инвест групп» актыўна працуе на рынку жылой нерухомасці Маскоўскай вобласці. З'яўляецца забудоўнікам жылых комплексаў у падмаскоўных гарадах Іванцееўка, Пушкіна. Адметна, што кантактны тэлефон кампаніі «Арт-инвест груп» раней належаў даччынай структуры карпарацыі «SagMel, Inc.» у РФ.

Зазначым, што «Арт-инвест груп» мае скрайне негатыўныя ацэнкі на шматлікіх парталах водгукаў пра дзейнасць працадаўцаў. Характэрна, што яна фігуруе там таксама з іншай назвай — **«АгроПромСервис».**

Паводле інфармацыі з Адзінага дзяржаўнага рэестру юрыдычных асобаў РФ (АДРЮА), ТАА «АгроПромСервис» зарэгістраваная 5 лютага 2015 года з юрыдычным адрасам у г. Красногорску Маскоўскай вобласці. Статутны капітал складае 10 тысяч расійскіх рублёў. Кампанія створаная праз рэарганізацыю з аднайменнага закрытага акцыянернага таварыства, адным з першых генеральных дырэктараў якога быў менавіта Вячаслаў Азаранка. Заснавальнікамі рэарганізаванай кампаніі сталі Закрытая акцыянерная кампанія з абмежаванай адказнасцю **«Crowfoot Trading Limited»** (90%), а таксама (увага!) — **«Bealcy Investments Limited»** (10%).

Абедзве кампаніі зарэгістраваныя на Кіпры з ідэнтычным юрыдычным адрасам: Agiou Pavlou Str, 15, Ledra House, Agios Andreas 1105, Nicosia, Cyprus. Ёсць і цікавая асаблівасць: «Crowfoot Trading Limited» разам з амерыканскай кампаніяй **«Lenthon Realty LLC»** у якасці нерэзідэнтаў вялі гаспадарчую дзейнасць у Беларусі. Абедзве былі зарэгістраваныя Міністэрствам па падатках і зборах РБ у адзін дзень —1 снежня 2010 года. Амаль праз чатыры з паловай гады, у адзін у той жа дзень, 27 красавіка 2015 года, іх рэгістрацыя была скасаваная (падрабязная інфармацыя пра «Lenthon Realty LLC» маецца ў нашым першым расследаванні).

Гэтыя факты сведчаць пра тое, што яны звязаныя між сабой і, меркавана, афіляваныя з Ляонам Сагальчыкам, Антонам Меліхавым і, магчыма, Вячаславам Азаранкам. З улікам пададзенага масіву інфармацыі зразумела, што яны падтрымліваюць на працягу вельмі вялікага прамежку часу доўгатрывалыя партнёрскія зносіны, з'яўляюцца ўласнікамі супольных кампаніяў, актываў у розных дзяржавах. Відавочна, з вялікай доляй верагоднасці, кампанія «Bealcy Investments Ltd.» таксама афіляваная з гэтымі асобамі, утвораная з яе ўдзелам ТАА «Білсі-Рыэлт» праз рэарганізацыю ў форме вылучэння з кампаніі ТДА «Белтрансфер» пра гэта яскрава сведчыць. Прадстаўніком іх інтарэсаў у Беларусі, а таксама ўласнікам СТАА «Білсі», як было зазначана напачатку, з'яўляецца **Бекбулатава Кацярына Леанідаўна** (нар. у 1970 годзе, жыла ў Мінску).



Расійская сістэма электроннага дакументазвароту і праверкі контрагентаў «СБИС» на падставе інфармацыі з Федэральнай падатковай службы РФ і з улікам гісторыі зменаў падае інфармацыю пра наяўнасць сувязяў «Арт-инвест групп» з кампаніяй **ТАА «ГелиОйл»**, зарэгістраванай 15.10.2010 г. у Маскве. «ГелиОйл» належыць толькі аднаму ўласніку — кіпрскай кампаніі **«Iliotropion Trade & Service Ltd.».** Паводле інфармацыі з гандлёвага рэестру Кіпру, апошнюю кампанію ачольвае (увага!) — Кацярына Бекбулатава. Асноўным відам дзейнасці кампаніі з'яўляецца вытворчасць нафтапрадуктаў, большасць жа дадатковых відаў дзейнасці, перадусім аптовы гандаль насеннем і зернем, — тыя ж самыя, што і ў «Арт-инвест груп». Відавочна, Бекбулатава мае шчыльныя партнёрскія стасункі і супольныя бізнес-інтарэсы з Вячаславам Азаранкам.

У выніку аналізу адкрытых крыніц інфармацыі і з улікам мізэрнай колькасці носьбітаў прозвішча «Бекбулатаў» у Беларусі, вызначана, што Кацярына Бекбулатава, з вялікай доляй верагоднасці, з'яўляецца ці была жонкаю вядомага беларускага хакеіста Вадзіма Бекбулатава.

### Бізнес праз спорт?

**Бекбулатаў Вадзім Міхайлавіч** — заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь.



Скрыншот відэа телеканалу «СТВ»

Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску (паводле іншых дадзеных, у Свярдлоўску). Удзельнік хакейнай зборнай Беларусі на зімніх Алімпійскіх гульнях 1998 года ў Нагана і 2002 года ў Солт-Лейк-Сіці. За нацыянальную зборную Беларусі выступаў з 1992 па 2005 год. З'яўляецца капітанам хакейнай «Каманды прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Гуляе ў ёй ад 2005 года разам з Аляксандрам Лукашэнкам. Каманда стала перамагае ў штогадовым Калядным міжнародным турніры сярод аматараў хакею на прыз свайго ж кіраўніка, і гэта не дзіўна, бо большасць яе гульцоў — прафесійныя хакеісты са шматгадовым стажам. Па-за гэтым турнірам каманда Лукашэнкі гуляе ў Рэспубліканскіх спаборніцтвах па хакеі з шайбай сярод аматараў, у якасці спарынг-партнёраў у іх выступаюць зборныя беларускіх абласцей. Апроч гэтага, Бекбулатаў разам са старшым сынам кіраўніка Беларусі Віктарам Лукашэнкам (памочнікам кіраўніка Беларусі па нацыянальнай бяспецы, чальцом Рады Бяспекі) і сярэднім — Дзмітрыем Лукашэнкам — старшынёй цэнтральнай рады «Прэзідэнцкага спартовага клубу», выступае ў аматарскім чэмпіянаце Мінску за дружыну памежных войскаў «Рубеж». Менавіта ў Памежных войсках праходзілі тэрміновую службу Віктар і Дзмітрый Лукашэнкі.

У 2014 годзе Лукашэнка ўзнагародзіў Вадзіма Бекбулатава Ордэнам Пашаны. Характэрна, што кіраўнік Беларусі ўганараваў яго асабіста падчас афіцыйнага прыёму, на якім былі ўзнагароджаныя старшыня КДБ Валер Вакульчык, міністр унутраных справаў Ігар Шуневіч, тагачасны міністр абароны Юры Жадобін, старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына.

У адкрытым доступе няшмат інфармацыі пра асабістае жыццё Вадзіма Бекбулатава. Паводле яго асабістага сведчання, зробленага падчас аднаго з нешматлікіх інтэрв'ю, ён дапамагаў свайму сыну, які навучаўся ў ЗША. У акаўнце сацсеткі «ОК» Кацярыны Бекбулатавай ёсць звесткі, што іх меркаваны супольны сын Мікіта насамрэч навучаўся і скончыў у 2016 годзе прыватны рыма-каталіцкі ўніверсітэт Маркета (Marquette University) у Мілуокі, штат Вісконсін.

У апісанні свайго досведу працы ў акаўнце Linkedin ён пазначыў, што са студзеня па снежань 2015 года быў менеджарам па развіцці бізнесу чыкагскай кампаніі «Slice the Price Electronics», якая праіснавала крыху больш за год. Характэрна, што адрас агента, які здзяйсняе рэгістрацыю кампаніі, цалкам супадае з адрасам карпарацыі «SagMel, Inc.» Сагальчыка і Меліхава. Уласнікамі кампаніі «Slice the Price Electronics» з'яўляўся сам Мікіта Бекбулатаў і, меркавана, сын Вячаслава Азаранкі.

Пасля атрымання вышэйшай адукацыі ў ЗША Мікіта Бекбулатаў працуе ў расійскай кампаніі «АгроПромСервис», уласнікам і дырэктарам якой з'яўляецца Вячаслаў Азаранка.

Паказальна, што для сваёй электроннай пошты ён выкарыстоўвае карпатыўнае даменнае імя кампаніі «Арт-Инвест групп», што дадаткова сведчыць пра ўзаемасувязь дзвюх кампаніяў.

У згаданым акаўнце Linkedin ён пазначыў сваю пасаду ў кампаніі «АгроПромСервис» у якасці «менеджара па экспарту». У адкрытым доступе быў знойдзены сусветны каталог аптовых пастаўнікоў зерня «The Grain Book» за 2016 год. Цікава, што Мікіта Бекбулатаў


Мікіта Бекбулатаў / Linkedin

разам з Вячаславам Азаранкам прадстаўляюць у ім не сваю расійскую кампанію, але пазначаную вышэй афшорную кіпрскую кампанію «Iliotropion Trade & Service Ltd», якую, паводле рэгістрацыйных дакументаў, ачольвае яго маці — Кацярына Бекбулатава.

Такім чынам, Мікіта Бекбулатаў, як і яго маці, стаўся паўнавартасным партнёрам Вячаслава Азаранкі. Верагодна, для вырашэння праблемаў, якія паўстаюць падчас здзяйснення бізнесу ў Беларусі, ён разам са сваёй маці мае магчымасць напрост звяртацца да Вадзіма Бекбулатава, які стала і рэгулярна на працягу досыць вялікага прамежку часу сустракаецца з першымі асобамі дзяржавы.

***

Надаём чытачу права самастойна вырашыць, ці звязанае ўсё вышэй пададзенае з адсутнасцю рэакцыі і невыкананнем дзяржаўнымі органамі прадстаўлення Генпракуратуры ад 2012 года адносна забароны будаўніцтва забаўляльнага цэнтру «Бульбаш-хол»; з мэтанакіраваным здзяйсненнем грубейшых парушэнняў падчас распрацоўкі праекту дэталёвага планавання, у выніку чаго забаўляльны комплекс быў выведзены з ахоўных межаў; з актыўнымі спробамі зацікаўленых актараў перавесці грамадскі пратэст у дэструктыўнае супрацьстаянне ўнутры беларускага грамадства; са спробамі падкупіць актывістаў нацыянальнай варты. Сам чытач павінен вызначыць, што ёсць квінтэсэнцыяй пануючага рэжыму ў Беларусі: клопат і турбота пра сваіх грамадзян ці сумнеўнае зрошчванне дзяржаўных і бізнес-структур ды адкрытае грэбаванне нацыянальнымі інтарэсамі.



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### САМАЛІ. Тэрарысты сыходзяць у эколагі

Незвычайная навіна прыйшла з рэгіёну Самалі, які кантралюе тэрарыстычная групоўка «Al Shabaab». Кіраўніцтва «Al Shabaab» забараніла на сваёй тэрыторыі ўсю прадукцыю з пластыку. На думку тэрарыстаў, «гэтая прадукцыя пагражае здароўю людзей і прыродзе». Таксама фундаменталісты абвясцілі па-за законам любыя вырубкі лясоў. Паведамленне з Афрыкі прымусіла многіх заходніх палітыкаў хавацца ад сораму. На Захадзе даўно ідзе дыскусія пра забарону пластыка — адной з галоўных пагроз сусветнаму акіяну і наваколлю. Аднак на гэты момант далей за ўсё прасунуліся некалькі муніцыпалітэтаў у Злучаных Штатах, якія цалкам забаранілі пластыкавыя пакеты. Магчыма, аналагічны законапраект прыме Еўрапарламент. Аднак, у лепшым выпадку, пад забарону трапіць 80 працэнтаў еўрапейскага пластыка, што на фоне самалійскіх захадаў выглядае апартунізмам. Зрэшты, спецыялісты заклікаюць не давяраць экалагічнай рыторыцы ісламістаў. Трэба ўзгадаць, што крыніцай фінансавання «Al Shabaab» з'яўляецца кантрабанда слановай косці. Таму, хутчэй за ўсё, словы пра забарону пластыка — гэта толькі піяр, які павінен палепшыць імідж групоўкі ў вачах Захаду.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ДАГЕСТАН. Як Імам Шаміль вокны рэкламаваў

Незвычайны рэкламны ход прыдумала адна з фірмаў Дагестана, якой мясцовы завод «Прагрэс», што спецыялізуецца на вытворчасці вокнаў, замовіў рэкламу. Піяр-кантора прапанавала рэкламную кампанію, тварамі якой сталі вядомыя дагестанцы. Разам з паэтамі і вайскоўцамі «рухавіком пластыкавых вокнаў» стаў лідар горцаў у часы Каўказскай вайны Імам Шаміль. Постэры са знакамітымі асобамі рэкламшчыкі размясцілі ў цэнтры Махачкалы. Многім мясцовым жыхарам такая крэатыўнасць адразу не спадабалася. «Што можа быць агульнага паміж Імамам Шамілем і вокнамі «Прагрэс»? У нармальнага грамадства бываюць межы прыстойнасці, за якія нельга выходзіць», — кажа адзін з праціўнікаў новых постэраў. У сваю чаргу, піяршчыкі гавораць, што ў сусветным рэкламным бізнесе ёсць мноства прыкладаў, калі выявы гістарычных асоб выкарыстоўваліся ў рэкламе. Кацярына II, напрыклад, рэкламуе банк. І што ж у выніку? Па загадзе гарадской адміністрацыі ўсе спрэчныя постэры былі дэмантаваныя. Прэс-служба гарадской адміністрацыі ўдакладніла, што шчыты былі ўсталяваныя незаконна.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Антарктычная Ялта

Аўтарытэтнае брытанскае выданне «Financial Times» заклікала да правядзення міжнароднай сустрэчы, якая павінна нагадваць знакамітую Ялцінскую канферэнцыю. Як вядома, у Ялце ўвесну 1944 года Вялікабрытанія, СССР і ЗША намецілі контуры пасляваеннага свету. Што да новай Ялцінскай канферэнцыі, то яна павінна ўсталяваць правілы гульні ў Антарктыдзе. Выданне фіксуе нарастаючую актыўнасць шэрагу краін у раёне Паўднёвага полюса, якая стымулюе глабальнае пацяпленне. Ужо сёння колькасць турыстаў у Антарктыду расце на 17 працэнтаў штогод. Спецыялісты дапускаюць, што вельмі хутка з'явіцца магчымасць здабычы мясцовых мінеральных рэсурсаў. Гэта ў любым выпадку запатрабуе перагляду базавых міжнародных пагадненняў па Антарктыдзе, якія былі заключаныя ў 1959 годзе. «Financial Times» мяркуе, што альтэрнатывай антарктычнай Ялце можа стаць паступовы пераход Антарктыды пад кантроль Пекіну. Менавіта кітайскія навукоўцы найбольш актыўна пранікаюць на ледзяны кантынент. Калі верыць выданню, у гэтым годзе кітайцы ўклалі ў рэгіянальныя даследаванні больш, чым Аўстралія, якая да цяперашняга дня лічылася лідарам у галіне даследавання Паўднёвага полюса.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Падхалімства кіраўніку забаронена

Прысвячэнне песняў, кніг і фільмаў дзеючым прэзідэнтам — звычайная з'ява ў постсавецкай Цэнтральнай Азіі. А вось Узбекістан, а дакладней, яго кіраўнік Шаўкат Мірзіёеў, хоча паказаць, што стаў выключэннем. Нядаўна ўлады заявілі пра забарону падхалімства на яго адрас і папярэдзілі — хвалебныя песні, прысвечаныя кіраўніку краіны, могуць каштаваць спевакам і кампазітарам ліцэнзій іх на выкананне. Абвяа была зроблена ў рамках сустрэчы артыстаў і чыноўнікаў «Узбекканцэрта» — дзяржаўнага органу, які курыруе ўзбекскую забаўляльную індустрыю. «Прысвячэнне відэакліпаў некаторым людзям, а таксама дзейнасці кіраўнікоў дзяржаў... неэтычнае», — сказаў прысутным дырэктар «Узбекканцэрту». Увогуле, гэты крок быў зроблены праз некалькі тыдняў пасля таго, як спявачка з Узбекістана зазнала крытыку за музычны кліп, які яна прысвяціла лідару краіны. Застанецца пагладзець, як новая ўстаноўка будзе рэалізаваная. Узбекістан, як ні круці, — усходняе грамадства, дзе моцныя аўтарытарныя традыцыі.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

# Які француз не любіць хуткай язды?



Фота www.autopomoshnik.ru

Алег НОВІКАЎ

**З пачатку ліпеня ў Францыі ўступіў у сілу закон, які абмяжоўвае хуткасць на публічных трасах з 90 да 80 кіламетраў на гадзіну. Падавалася, далёка не самая рэзанансная рэформа нечакана выклікала агульнанацыянальны супраціў.**

3684 — менавіта столькі французаў пайшлі з жыцця ў выніку аварый на дарогах краіны ў мінулым годзе. У разліку на месяц — больш за 300 нябожчыкаў. Гэтыя лічбы — ці не лепшы аргумент на карысць папраўкі? Трэба таксама ўлічыць, што скарачэнне максімальнай хуткасці з 90 да 80 кіламетраў на гадзіну, як лічаць чыноўнікі, дапамагае захаваць якасць нацыянальных дарогаў. Гаворка пра дарогі, за праезд па якіх, у адрозненне ад аўтабанаў, не трэба плаціць.

Аднак рэакцыя на прапанову ўраду Эдуара Філіпа нечакана аказалася надзвычай негатыўнай. Акцыі пратэстаў аўтааматараў ахапілі ўсю глыбінку. Федэрацыя раз'юшаных байкераў назвала прэм'ера «рэкецірам» ды арганізавала гучны прабег па цэнтры Парыжа. Асацыяцыя ўладальнікаў аўто, якая налічвае каля 8 мільёнаў сябраў, таксама асудзіла праект.

Не дапамагае і абяцанне прэзідэнта Эмануэля Макрона перадаваць усе штрафы за перавышэнне хуткасці ў фонд дапамогі ахвярам ДТЗ. Паводле сацыёлагаў, супраць новай максімальнай хуткасці ў 80 кіламетраў на гадзіну выступае больш за 75 працэнтаў французаў. Адкуль паўстаў такі скепсіс?

Па-першае, мала хто верыць, што рух на хуткасці 80 кіламетраў прынцыпова зменіць смяротную статыстку. Як жартуюць каментатары, з тым жа эфектам можна прадаваць цыгарэты па 30 еўра за пачак і меркаваць, што праблема палення цалкам вырашаная. Па-другое, незразумела, чаму папраўка тычыцца выключна публічных дарог. На аўтабанах, дзе таксама адбываюцца аварыі, захоўваюцца старыя нормы хуткасці. Нарэшце, больш павольны трафік дакладна павялічыць колькасць затораў, што справакуе небяспечныя сітуацыі. Заторы непазбежныя, калі ўлічыць, што грузавікі таксама павінны рухацца з хуткасцю 80 кіламетраў на гадзіну. То бок, абганяць грузавікі прыватным легкавікам фактычна забаронена.

Усё гэта дае абывацелю глебу для падазрэнняў. Маўляў, лабістамі новых правілаў хуткасці былі нейкія будаўнічыя кампаніі, якія мараць распілаваць прыкладна 612 мільёнаў еўра (менавіта столькі спатрэбіцца на тое, каб адаптаваць да новых правілаў 400 тысяч кіламетраў публічных дарог, устанавіўшы 11 тысяч указальнікаў хуткасці, знакаў, шыльдаў і некалькі тысяч радараў).

Цікава, што пытанне наконт новай максімальнай хуткасці аб'яднала розныя палітычныя групоўкі — прадстаўнікі ўсяго палітычнага спектру аднадушна крытыкуюць прэзідэнта і ўрад. Кансерватыўныя партыі лічаць,




**Мала хто верыць, што рух на хуткасці 80 кіламетраў у гадзіну прынцыпова зменіць смяротную статыстку**

што новы закон падкрэслівае яўна тэхнакратычную прыроду цяперашняга ўраду. Толькі чыноўнікі-тэхнакраты, далёкія ад народа, могуць думаць, што нейкімі цыркулярамі можна вырашыць сур'ёзную праблему. Дарэчы, Эдуар Філіп абяцаў паменшыць за год колькасць ахвяраў на дарогах на 400 чалавек.

Правінцыйныя ўлады і ліберальныя прадпрымальнікі, інтарэсы якіх абяцаў абараняць Макрон падчас выбарчай кампаніі, кажуць, што павольны рух на дарогах пагоршыць сітуацыю з беспрацоўем у прыгарадах буйных гарадоў. Мясцовыя вымушаныя зранку дабірацца на працу ў горад на прыватных машынах. Калі для падарожжа спатрэбіцца больш часу, правінцыялы будуць больш стомленымі на працоўным месцы. Як вынік, бізнесмены пачнуць надаваць прыярытэт тым, хто жыве побач з месцам працы.

Расчараваў Макрон і так званы «крэатыўны клас». Цяпер увесь свет змагаецца за тое, каб павялічыць хуткасць транспартных сродкаў. Той жа Ілан Маск прапануе будаваць цягнікі-гіперлупы, якія будуць рухацца з хуткасцю тысячу кіламетраў на гадзіну. Аўтамабільныя кампаніі запускаюць машыны, якімі будуць кіраваць робаты. Машыны змогуць у тым ліку выбудоўваць максімальна хуткія маршруты. Адным словам, урад яўна глядзіць у мінулае, а не ў будучыню.

Нарэшце, на думку левых крытыкаў Макрона, прычына росту аварый — не ў нормах хуткасці, а ў псіхічных асаблівасцях кіроўцаў. Праз ліберальныя рэформы шматлікія французы баяцца за свае працоўныя месцы, увесь час жывуць у стане стрэсу. Адсюль і шалёны рост колькасці ДТЗ.

Чым больш чытаеш тэксты крытыкаў новага закону, тым больш падаецца, што тэма пра хуткасць трошкі штучная. Папросту грамадства, якое мае зуб на Макрона, выкарыстала закон як нагоду для атакі на Елісейскі палац.

Сапраўды, адміністрацыя Макрона перажывае не лепшыя часы. Яна не здолела перакانаць грамадства ў неабходнасці запланаваных рэформаў. Наадварот, Макрон пасварыўся са шматлікімі катэгорыямі насельніцтва — пенсіянерамі, прафсаюзамі, студэнтамі. Захісталіся і шэрагі макраністаў. Нікаля Юло, міністр экалогіі, дасылае нейкія супярэчлівыя сігналы наконт свайго знаходжання ў кабінеце.

Тым часам закон працуе ўжо тыдзень, і пакуль мірыцца з ім французы, падаецца, яўна не збіраюцца. Часам справа даходзіць да дэманстратыўнага сабатажу новых дарожных знакаў. Так ці інакш, скандал павялічвае шансы хуткай адстаўкі кабінета Эдуара Філіпа. Калі кабінет пратрымаецца, галоўным тэстам для яго і для прэзідэнта будуць выбары ў еўрапарламент у наступным годзе.

# Футбол зменіць Расію

Алег НОВІКАЎ

**Сярод публіцыстаў краін СНД зараз папулярная тэма — пасля заканчэння Кубка свету па футболе мы пабачым абсалютна іншую Расію. Аднак варыяцый гэтай новай Расіі прапануюцца дыяметральна розныя.**

«Вялікая вёска» — так у сваіх мемуарах славуты расійскі джазмен Аляксей Казлоў апісвае Маскву сярэдзіны 1950-х гадоў. Найбольшай забавай моладзі ў той час было дэфіле па вуліцы Горкага ў патоку людзей, насустрач якому рушыў іншы натоўп. Дайшоўшы да крайняй кропкі, людзі разварочваліся і ішлі ў зваротным кірунку, — і так па некалькі разоў за вечар.

Усё змянілася ў 1957 годзе, калі горад прыняў Міжнародны фестываль моладзі і студэнтаў. Інтэрвенцыя вялікай колькасці іншаземцаў прынесла ў СССР дух свабоды і канчаткова пахавала інерцыю мыслення, якая была прышчэпленая народу ў сталінскія часы. Казлоў нават называе той фестываль «пачаткам краху савецкай сістэмы».

Палітолагі (як правіла, умеранага ліберальнага накірунку) лічаць, што сёння мы з'яўляемся сведкамі чагосьці падобнага. Як піша кіеўскі эксперт Сяргей Ермалаеў, «тое, што адбываецца ў Расіі ў кантэксце Чэмпіянату свету, — гэта своеасаблівая спроба паўтарыць адлігу кшталту той, што была ў Савецкім Саюзе. Расія атрымлівае шанец дзякуючы Чэмпіянату свету. Таму чакаем адлігі і разрадкі».

Адзначаецца і тое, што на стадыёнах, магчыма, удалося стварыць новую мадэль патрыятызму па-руску. «Мы перажылі ў дні Кубка свету зусім нечаканы патрыятычны ўздым з вельмі правільнай нагоды, якая нічым не пагражае іншым народам. Мы паказалі свету, што Расія — адкрытая касмапалітычная прасунутая краіна», — пішуць «Аргументы и Факты».

На думку блогера Дзяніса Ціханава, змены непазбежныя — футбол выклікаў ідэалагічны крызіс вядучых фракцый расійскай палітыкі. «Патрыёты асаджанай крэпасці пад назвай Расія са здзіўленнем выявілі, што замежнікі, што прыехалі ў іх краіну, зусім не хочуць вынішчыць або зняважыць Расію. І на сакральныя духоўныя скрэпы, быццам, не замахваюцца. Расійскія лібералы з не меншым здзіўленнем выявілі, што заўзятары-«ватнікі» зусім не імкнуцца злосна збіць усіх замежнікаў. Наадварот, нават гасцінна ім усміхаюцца і прапануюць гарэлку. Гэта яшчэ не ідэалагічная рэвалюцыя. Чэмпіянат скончыцца — і абодва бакі возьмуцца за старое. Але пасля вялікага футболу і першым, і другім будзе цяжэй прасоўваць свае старыя забабоны, якія блакуюць выйсце з цяперашняга застою. І нават гэта ўжо выдатна», — лічыць аўтар.

«Трымай кішэню шырэй», — кажуць на такія тэксты песімісты, заклікаючы ўзгадаць наступствы Алімпіяды ў Сочы. Сочынская Алімпіяда, падавалася, таксама стварыла вобраз адкрытай і гасціннай Расіі. Скончылася справа допінгавым скандалам і крымскай авантурай.

> **Патрыёты асаджанай крэпасці пад назвай Расія са здзіўленнем выявілі, што замежнікі, што прыехалі ў іх краіну, зусім не хочуць вынішчыць або зняважыць Расію. І на духоўныя скрэпы, быццам, не замахваюцца**

У Кіеве шмат хто чакае паўтору падзей 2014-га пасля фінальнага свістку на Мундыялі. «Пасля завяршэння Чэмпіянату свету па футболе ў Расіі, у Данбасе будзе абвастрэнне ваеннай сітуацыі. Ва Уладзіміра Пуціна будуць развязаныя рукі», — напісаў намеснік міністра Украіны па пытаннях «акупаваных тэрыторый» Рыгор Тука. А Юлія Цімашэнка лічыць, што дапамагчы Маскве ў гэтым збіраецца Парашэнка. Украінскі гарант, паводле яе словаў, вядзе сакрэтныя кансультацыі з ЛНР-ДНР наконт абвастрэння канфлікту, што дазволіць яму абвясціць вайсковае становішча і застацца на пасадзе кіраўніка дзяржавы.

Мала веры і спадзяванняў на новую патрыятычную культуру расіян. Як прыклад — цяперашняя істэрыка, выкліканая праўкраінскай рэплікай харвацкіх футбалістаў. Справа ўжо дахозіць да дэпутацкіх заяў пра тое, што «Харватыя здрадзіла славянству». Пра які касмапалітычны патрыятызм можна казаць, калі адзін з губернатараў лічыць правал немцаў на турніры кармай за дзве развязаныя Германіяй сусветныя вайны?!

Але значна больш сумневаў наконт магчымай адлігі пасля турніру выклікаюць апошнія працэсы ў расійскай эканоміцы. Пакуль футбалісты гойсалі па полі, урад Мядзведзева запусціў павышэнне пошлін, пенсійную рэформу і ўзняў ПДВ. Цяпер у Крамлі трэба думаць, як увесь гэты пакет рэформаў легітымаваць у грамадстве. Можна, натуральна, шукаць кансенсусу ў фармаце кансультацый з рознымі палітсіламі. Аднак хіба ці не прасцей перавесці ўвагу расіян на старую апрацаваную тэму пра антырасійскія захады «піндосаў»?

У спрэчцы пра Расію пасля Кубка свету ёсць яшчэ адна вельмі радыкальная думка. Гучыць яна прыкладна так: няма сэнсу на гэты конт спрачацца, паколькі ад Расіі можна чакаць усяго, што заўгодна. Блогер Аляксей Піваварaў праілюстраваў такі падыход на тыпажах правінцыйных паліцыянтаў, якіх на час турніру адправілі патруляваць вуліцы сталіцы. Піваварaў піша: «Вось паліцэйскія, якім хаміць забаранілі, а быць інфармаванымі, ветлівымі і мультымоўнымі — не навучылі. У выніку яны стаяць моўчкі, не адказваюць ні на адно пытанне (дый не ведаюць яны гэтых адказаў). І нават не зразумееш, прыедуць яны пасля месяца ў Маскве акультураныя і прасякнутыя атмасферай, ці наадварот, з назапашаным патэнцыялам нерастрачанай нянавісці да людзей».



Фота www.ru.sputnik-tj.com

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Яўген Мураеў



Народны дэпутат Украіны, адзін з лідараў партыі «За жыцця», якая прадстаўляе інтарэсы Поўдня і Усходу краіны, пакінуў жонку з двума дзецьмі дзеля маладой актрысы Кацярыны Гардзіенка, — гэта стала сапраўднай палітычнай бомбай.

Адзюльтэр 41-гадовага дэпутата цалкам перакроіў сітуацыю ў апазіцыі. Яшчэ ўчора лічылася, што Мураеў або яго «правая рука» Вадзім Рабіновіч змогуць скласці канкурэнцыю на прэзідэнцкіх выбарах 2019-га прадстаўнікам партыі «Апазіцыйны блок» — спадчыннікам Партыі рэгіёнаў. Аднак любоўныя прыгоды Мураева ставяць крыж на перспектывах «За жыцця». Па-першае, украінскі выбаршчык у большасці шануе асновы традыцыйнай сям'і, і тым больш не падтрымае рашэнне палітыка пакінуць двух дзяцей дзеля акторкі. Па-другое, менавіта сваякі першай жонкі дапамаглі Мураеву трапіць у вялікую ўкраінскую палітыку.

«Можна колькі заўгодна выходзіць на маніфестацыі і лаяць уладу, але ёсць рэчы, якія нармальны выбаршчык не даруе ніколі», — піша адно з украінскіх выданняў, каментуючы пікантны скандал.

Такім чынам, вельмі верагодна, што адзіным кандыдатам ад Паўднёвага Усходу будзе Юрый Бойка (лідар «Апазіцыйнага блоку»). Палітолагі мяркуюць, што ў яго някепскія шанцы прабіцца ў другі тур.

Праўда, гісторыя Украіны ведала выпадкі, калі палітыкі, якія парушылі маральны кодэкс, захоўвалі палітычны вагу і аўтарытэт. З найбольш вядомых выпадкаў — шлюб 57-гадовага лідара камуністаў Пятра Сіманенкі з маладой журналісткай Аксанай Вашчанка ў 2009 годзе. Сыход з сям'і і гучны скандал не перашкодзілі Сіманенку аж да часоў Еўрамайдана заставацца салідным палітычным фігурай.

### Мустафа Акінджы



Кіраўнік рэспублікі Паўночнага Кіпру — самаабвешчанай дзяржавы, якую прызнае толькі Турцыя, — пасварыўся са сваім патронам.

Паўночны Кіпр паўстаў, па сутнасці, дзякуючы турэцкім войскам, якія ў 1974 годзе захапілі частку Кіпра. Дзяржава моцна залежыць ад эканамічнай дапамогі Анкары. Але зараз паміж туркамі і туркамі-кіпрыётамі прабегла чорная котка. Усё праз новы курс Таіпа Эрдагана, які на днях пераабраўся на пасаду прэзідэнта.

Турэцкі гарант нават не хавае, што збіраецца кіраваць у аўтакратычным стылі, і да таго ж прасоўваць каштоўнасці ісламу, у тым ліку і на Паўночным Кіпры. Пра гэта ён асабіста засведчыў падчас візіту на Кіпр на гэтым тыдні, адчыніўшы вялікую мячэць. Візіт Эрдагана выклікаў вялікі рэзананс, паколькі ісламізацыя супярэчыць больш свецкаму ладу жыцця турак-кіпрыётаў (тут, напрыклад, лічыцца цалкам нармальным ужываць алкаголь).

Пытанне — ці рызыкнуць Мустафа Акынджы і мясцовая супольнасць супярэчыць спонсарам? Большасць палітолагаў мяркуюць, што ісламізацыі не пазбегнуць, хаця б праз прысутнасць на поўначы вострава 45-тысячнага гарнізону турэцкіх вайскоўцаў. Акрамя таго, тутэйшыя ўжо не могуць уявіць жыцця без субсідый з Турцыі. Іншыя заклікаюць Акынджы абараняць свецкія прынцыпы туркаў-кіпрыётаў.

### Леа Варадкар



Прэм'ер-міністр Ірландцы на сваю галаву асудзіў мясцовых атэістаў з групы «Say Nope to the Pope», якія рыхтуюць пратэсты супраць візіту Папы Рымскага ў краіну.

Пантыфік плануе наведаць Ірландыю 25 жніўня. Апошні раз кіраўнік Ватыкана быў тут аж у 1979 годзе, і той візіт быў сапраўднай гістарычнай падзеяй. Яна Паўла ІІ сустракалі 2,7 мільёна чалавек, або 79 працэнтаў насельніцтва краіны. Атэісты не жадаюць рымейка тых падзей і прыдумалі арыгінальны крок — масава замаўляюць квіткі на сустрэчу з Папам, каб пасля туды не пайсці. Паколькі плаціць за квіткі не трэба, іх набываюць іх у вялікай колькасці. Адзін атэіст піша, што набыў больш за тысячу квіткоў.

З улікам таго, што аўдыторыя сустрэчы з Папам складае 45 тысяч чалавек, існуе пагроза, што людзей на ёй будзе не вельмі шмат. Менавіта таму прэм'ер і заклікаў атэістаў прыпыніць «нецалерантны» фокус з квіткамі.

Кансерватыўныя партыі падтрымалі заяву прэм'ера. Левыя і лібералы ўспрынялі яго словы як замах на свабоду думкі. Дыскусія наконт этычнасці кампаній «Say Nope to the Pope» працягваецца. І, хутчэй за ўсё, гэта толькі пачатак. Толькі-толькі скончыўся скандал пра сексуальны гвалт з боку некаторых ірландскіх ксяндзоў. Хаця Ватыкан асудзіў злачынствы, антыклерыкалы працягваюць раздзьмуваць тую справу.

# «Рускі свет» у назвах



Таццяна ПРОЦЬКА

**Пачатак тэмы у №№ 23, 25**

**Назвы беларускіх вуліц закліканыя не толькі ўвекавечваць «слаўныя імёны герояў». Важнай задачай, якую яны выконвалі і выконваюць, з'яўляецца ідэалагічнае выхаванне.**

У папярэдніх артыкулах я распавяла пра ўвекавечанне камуністычна-савецкіх нормаў і асаблівасцяў жыцця людзей у савецкай Беларусі. Але не толькі камуністычна-савецкае мінулае адлюстраванае ў назвах беларускіх вуліц. Не менш важнай часткай ідэалогіі, закладзенай у гэтых назвах, з'яўляецца іх «руска-расійскі» складнік.

## Рускі свет

«Руска-расійскае» ў назвах вуліц беларускіх гарадоў пачало з'яўляцца яшчэ ў часы ўключэння Беларусі ў склад Расійскай імперыі. Асабліва гэты працэс узмацніўся пасля паўстання Кастуся Каліноўскага, калі ў расійскай літаратуры — і навуковай, і публіцыстычнай — сталі ўжываць паняцце «рускі свет».

Лічыцца, што канцэпцыя «рускага свету», прапанаваная графам Сяргеем Уваравым у 1833 годзе, склалася канчаткова і набыла цэласны і скончаны выгляд да пачатку 1870-х гадоў. Згодна з гэтай канцэпцыяй, Расія з'яўлялася ядром дзяржаў славянскага культурна-гістарычнага тыпу. Увараўская трыяда «рускага свету» — праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць — была дапоўненая міжнародным складнікам, які вызначыў Расію як галоўную абаронцу ўсіх славян.

У часы СССР-БССР «руска-расійскі» складнік ідэалогіі выяўляўся перш за ўсё ў ідэі «рускага старэйшага брата», які клапоціцца пра духоўнае і матэрыяльнае развіццё сваіх «малодшых братоў і сясцёр». Да ліку такіх малодшых сясцёр-братоў адносілася і Беларусь. Адбыліся і пэўныя змены ў паняцці «рускага». Рускае ў гэты час — перш за ўсё партыйнае, маскоўскае (так трансфармавалася паняцце «самадзяржаўе»), савецка-камуністычнае (замест праваслаўя — камуністычная ідэалогія), передавое («старэйшы») і рускамоўнае з багатай, поўнай герояў расійскай гісторыяй і культурай (трансфармацыя паняцця «народнасць»). Вуліцы не толькі беларускіх гарадоў, але і гарадоў іншых рэспублік, якія ўваходзілі ў склад СССР, сталі называць у гонар «рускіх» (у новым разуменні) падзей і герояў.

Пасля распаду СССР ідэя «рускага старшага брата» стала непапулярнай. Аднак яна не памерла і была ў чарговы раз трансфармаваная і прыстасаваная да новых умоў у паняцці «рускага свету».

З'яўленне «рускага свету» ў пачатку XXI стагоддзя было абумоўленае жаданнем кіраўніцтва Расіі выкарыстоўваць патэнцыял эміграваўшых грамадзян Расіі і русіфікаваных грамадзян былых савецкіх рэспублік (іх налічылі каля чвэрці мільярда, больш за само насельніцтва гэтай краіны) у інтарэсах развіцця Расійскай дзяржавы. Акрамя таго, палічылі, што незалежныя дзяржавы, якія вызнаюць сваю агульную славянскую цывілізацыйную прыналежнасць, маглі б працягваць разам ствараць «рускі свет» і разглядаць яго як свой агульны наднацыянальны праект.

Сталі казаць нават пра такое паняцце, як «краіна рускага свету». Яно азначала, што краіна належыць да «рускага свету», калі ў ёй выкарыстоўваецца руская мова як мова міжнацыянальных зносін, развіваецца руская культура, а таксама захоўваецца агульнагістарычная памяць і адзіныя каштоўнасці грамадскага будаўніцтва.

У паняцце сучаснага «рускага свету» зноў вярнулася праваслаўе. Але ўжо не столькі як разнавіднасць хрысціянскай веры, а як цывілізацыйна ўтваральны фактар — у грамадскую свядомасць актыўна былі ўведзеныя паняцці «праваслаўная гісторыя, культура, каштоўнасці» і іншае.

Уладзімір Пуцін у канцы 2006 года, выступаючы на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй у Санкт-Пецярбургу ў якасці складнікаў «рускага свету» вылучыў «рускае слова» і «рускую культуру». «Рускі свет можа і павінен аб'яднаць усіх, каму дарагія рускае слова і руская культура, дзе б яны ні жылі, у Расіі ці за яе межамі», — сказаў ён.




Фота www.belaruspartisan.org




Патрыярх Кірыл, якому новая форма ідэі «рускага свету» вельмі падабаецца, і яго апалагеты лічаць, што з праваслаўнага пункту гледжання, «рускі свет» з'яўляецца агульнай «цывілізацыйнай прасторай» на тэрыторыі гістарычнай Русі, які трымаецца на наступных слупах: праваслаўе, руская культура і руская мова, агульная гістарычная памяць і агульныя погляды на грамадскае развіццё.

Расійскімі ідэолагамі Беларусь заўсёды разглядалася як «краіна рускага свету». І ў царскія, і ў савецкія, і ў наш час ідзе барацьба за тое, каб у свядомасці беларусаў асноўныя ідэі і паняцці «рускага свету» былі не толькі замацаваныя, але і адчуваліся імі як свае, родныя, неабходныя для духоўнага развіцця. Назвы вуліц маюць у гэтай барацьбе не апошняе значэнне, бо з дзяцінства прывучаюць бачыць і чуць пра руска-расійскія падзеі і герояў. І поспехі ў гэтай барацьбе сёння не на карысць Беларусі.

Разгледзім для пацвярджэння назвы вуліц Мінска — сталіцы Беларусі.

**Расійскімі ідэолагамі Беларусь заўсёды разглядалася як «краіна рускага свету». Ідзе барацьба за тое, каб у свядомасці беларусаў асноўныя ідэі і паняцці «рускага свету» адчуваліся як свае, родныя, неабходныя для духоўнага развіцця. Назвы вуліц маюць у гэтай барацьбе не апошняе значэнне**

## Пісьменнікі

У назвах вуліц Мінска ўвекавечаныя пісьменнікі і паэты, якія лічацца рускімі, як часоў Расійскай імперыі, так і савецкіх. Некаторыя з іх ведомыя шырока, некаторыя — не вельмі, нават у Расіі. Ёсць вуліцы Талстога (мяркую, што Льва, але не выключана таксама, што і ў гонар Аляксея), Тургенева, Дастаеўскага, Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Чарнышэўскага, Ясеніна, Маякоўскага, а таксама Бялінскага, Грыбаедава, Кальцова, Караленкі, Нікіціна, Агарова, Адоеўскага, Серафімавіча, Майкова і іншых. Варта адзначыць, што ў назвах вуліц Мінска ніякіх іншых імёнаў, нават сусветна вядомых еўрапейскіх або амерыканскіх пісьменнікаў, не адлюстравана. Істотна, што да Беларусі ўшанаваныя пісьменнікі і паэты маюць вельмі апасродкаваныя адносіны. Пераважная большасць сучасных, асабліва маладых беларускіх людзей, зусім не знаёмыя з іх творчасцю і, натуральна, не могуць адчуваць падзяку да іх працы — неабходную ўмову для ўшанавання.

## Мастакі

Калі на вуліцы Мінска спыніць маладога чалавека і спытаць: «Якіх мастакоў вы ведаеце і якіх любіце?», пераважная большасць не назаве імя якога-небудзь беларускага мастака. Цяжка любіць тое, пра што не маеш ніякага ўяўлення. І хоць у цяперашні час некаторыя перадачы БТ спрабуюць распавесці пра беларускіх мастакоў, паказаць іх карціны, прозвішчы гэтых асобаў не застаюцца ў памяці — аднаразовая перадача з расповедам пра творчасць мала гэтаму спрыяе. Але ў Мінску ўжо шмат гадоў існуюць вуліцы Айвазоўскага, Верашчагіна, Крамскога, Сурыкава, Фядотава, Шышкіна, Рэпіна.

## Музыка і тэатр

У 2013 годзе Нацыянальны статыстычны камітэт падрыхтаваў цікавую «тэатральную статыстыку» па Беларусі. Паводле дадзеных 2011 года, Беларусь стала лідарам па колькасці тэатральных мерапрыемстваў сярод краін СНД. Самыя папулярныя ў Беларусі тэатры — драматычныя і музычныя. У 2012 годзе для жыхароў і гасцей рэспублікі працавала 28 прафесійных тэатраў, з якіх 19 — драматычных і музычных, 8 — дзіцячых і юнага гледача, 1 — оперы і балета. Рэпертуар тэатраў у 2012 годзе ўключаў 981 пастаноўку. З іх 374 пастаноўкі беларускіх аўтараў, 421 — для дзяцей. Толькі чвэрць усіх спектакляў была пастаўленая на беларускай мове. Разам з тым у Мінску ўвекавечаны не беларускія акцёры і тэатральныя дзеячы, а расійскія. Ёсць вуліцы рускага кампазітара Чайкоўскага, рускага акцёра Тарханава (мяркую, што Міхаіла), акцёра Шчэпкіна, заснавальніка рускай акцёрскай школы Станіслаўскага — рускага тэатральнага рэжысёра, акцёра і педагога, рускіх спевакоў Няжданавай, Собінава. У той жа час, імя заснавальніка беларускага тэатра, беларускай акцёрскай школы Еўсцігнея Міровіча ў вуліцах Мінска не ўвекавечана.

Калі руская культура прадстаўленая ў назвах больш за 70 вуліц Мінска, то беларуская савецкая культура прадстаўленая ў 36 назвах, а беларуская нацыянальная — у 24 (паводле дадзеных 2009 года)

З назвамі ў гонар рускіх акцёраў ёсць і «цікавосцы». Сапраўднае прозвішча акцёра Тарханава — Масквін. Акцёраў Масквіных, досыць вядомых у Расіі, не менш за пяць. Зразумець, у гонар якога з іх названая вуліца ў Мінску, звычайнаму чалавеку немагчыма нават з дапамогай інтэрнэту. Але самым вядомым з Масквіных з'яўляецца сёння не акцёры, а Анатоль Масквін — як напісана ў Вікіпедыі, «расійскі краязнаўца-некрапаліст, лінгвіст-паліглот, перакладчык, журналіст і ўкладальнік слоўнікаў. У сваёй кватэры ўтрымліваў больш за дваццаць муміфікаваных цел дзяўчынак і адну ў гаражы. З дыягназам «шызафрэнія» накіраваны судом на прымусовае лячэнне па абвінавачванні ў абразе целаў памерлых». Пры няведанні, можна лічыць, што вуліца названая і ў яго гонар.

## Гісторыя

У назвах мінскіх вуліц (і не толькі мінскіх, такая ж сітуацыя

# беларускіх вуліц

ва ўсіх буйных гарадах Беларусі) увекавечаны найбольш значныя падзеі менавіта расійскай гісторыі. Паўстанні — вуліцы Пугачова, Разіна, Балотнікава; дзекабрыстаў (вуліцы Рылеева і Пестэля); ваенныя перамогі Расіі ў асобе палкаводцаў, якія іх набылі — вуліцы Кутузава, Суворава, Лазарава, Нахімава, Ушакова і іншых. Ва ўгоду расійскай гісторыі ганьбіцца айчынная, беларуская. Так, у Мінску ёсць вуліцы Мініна і Пажарскага. У расійскай гісторыі яны ўслаўлены за тое, што арганізавалі і накіравалі народнае апалчэнне на «вайну з палякамі». Пра якіх палякаў у дадзеным выпадку ідзе гаворка? У 1609–1618 гадах Рэч Паспалітая, у склад якой уваходзілі беларускія землі, вяла вайну з Масковіяй. У Мінску ўвекавечаны людзі, якія прынеслі паразу ў той час нашай дзяржаве! Тое ж можна сказаць і адносна Суворава, які на тэрыторыі Беларусі кіраваў баямі з паўстанцамі на чале з Касцюшкам, што выступалі супраць падзелу і далучэння да Расіі Рэчы Паспалітай.

Найбольшая колькасць вуліц Мінска названая ў гонар удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны — каля 130 вуліц! Увекавечаны савецкія маршалы і генералы, нават тыя, што да бітваў у Беларусі не мелі ніякага дачынення, і проста салдаты і афіцэры, якія нарадзіліся ў Расіі, але загінулі на тэрыторыі Беларусі. Даведацца, чаму вуліца носіць імя таго ці іншага чалавека і хто ён насамрэч, ужо ў 1990-я гады было вельмі складана.

Таму Мінгарвыканкам на сваім сайце змясціў кароткія звесткі пра тых, у гонар каго названая вуліца. Заўважу, што гэтая інфармацыя тычыцца толькі ўдзельнікаў ВАВ, астатнія назвы ўдакладненняў не маюць. Аднак, калі пачытаць гэтыя кароткія звесткі, становіцца зразумела: Мінск і Беларусь вызвалілі расіяне, у падзяку якім і названыя вуліцы. Жыхарам беларускіх гарадоў нават не трэба чытаць «прыватызаваную» расіянамі (як кажа беларускі кіраўнік) гісторыю ВАВ — у назвах беларускіх вуліц даўно замацаваная думка, што перамога ў вайне — заслуга выключна расіян.

Мінск — горад шматканфесійны. Тут дзейнічаюць храмы розных хрысціянскіх канфесій, і гэта было адлюстравана і ў назвах вуліц дарэвалюцыйнага горада. У савецкія часы рэлігійныя назвы вуліц былі зменены на рэвалюцыйныя. Рэлігійныя назвы паціху пачалі вяртацца з пачатку 1990-х гадоў. Першай з іх стала перайменаванне вуліцы Бакуніна ў вуліцу Кірылы і Мяфодзія. Другое перайменаванне тычылася вяртання вуліцы Апанскага гістарычнай назвы — Кальварыйская. З'явілася і новая вуліца — Усіхсвяцкая. Але пакуль беларускі варыянт «рускага свету» не мае праваслаўнага складальніка ў назвах вуліц.

### Ці можна перайменаваць вуліцу?

Беларускія людзі добра ведаюць — як караблік назавеш, так ён і паплыве. У адной з дыскусій па назвах вуліц Мінска нейкі чалавек трапна адзначыў: «У нас тапонімы ўсе прадказальныя: цэнтр — тэарэтыкі і героі рэвалюцыі; крыху далей — іх беларускія падручныя; яшчэ крыху далей — военачальнікі і героі Другой сусветнай; яшчэ крыху далей — чарада партыйных «недалыг» (Кісялёў, Бяда, Сурганаў…) А прадстаўнікам нацыянальнай культуры месца знайшлося толькі там, куды нас некаторыя «асабліва разумныя» адпраўляюць каровам хвасты круціць: Шабаны, Брылевічы, Каменная Горка». Але выправіць сітуацыю зусім няпроста.

Яшчэ ў савецкія часы, у кастрычніку 1983 года, Саветам Міністраў БССР было зацверджана Палажэнне аб парадку назвы і перайменавання дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і іншых аб'ектаў. Гэтая пастанова дзейнічала да 2007 года. У 2007 годзе было зацверджанае новае-старое палажэнне аб парадку назваў і перайменавання арганізацый, чыгуначных станцый, аэрапортаў і іншых аб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама фізіка-геаграфічных аб'ектаў. У развіццё палажэння адносна наймення і перайменавання вуліц у гэтым жа годзе Мінскі гарсавет вызначыў наступную працэдуру.

Пры Мінгарвыканкаме створаная Камісія па найменні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых складовых частак горада Мінска. Сябры камісіі, грамадзяне, юрыдычныя асобы, арганізацыі ўносяць сюды прапанову па найменні ці перайменаванні вуліцы. Потым прапанова вылучаецца: а) на грамадскае абмеркаванне ў СМІ, б) даследуецца юрыстамі. Пасля гэтага, пры станоўчым рашэнні Камісіі, разглядаецца дэпутатамі Мінгарсавета на чарговай сесіі, якія і прымаюць канчатковае рашэнне. Пры гэтым новая назва павінна быць гістарычна абгрунтаваная, прыемная на слых, а таксама дапамагаць арыентавацца ў горадзе мінчанам і гасцям горада. Здаецца, хоць і не ўсе проста, але магчыма змяніць сітуацыю.




На самай справе, зусім няпроста і не заўсёды магчыма. У 2008 годзе жыхары вуліцы Бяды, названай у гонар ураджэнца Казахстана, двойчы героя Савецкага Саюза Леаніда Бяды, які загінуў у 1976 годзе ў аўтакатастрофе разам з Фёдарам Сурганавым, папрасілі камісію перайменаваць вуліцу ў гонар Мулявіна, які на гэтай вуліцы жыў да сваёй смерці. Адным з аргументаў для перайменавання было і тое, што назва мае двухсэнсоўнае гучанне. Але адказ жыхары атрымалі адмоўны. Ён быў прыкладна наступнага зместу: з улікам таго, што перайменаванне вуліцы Леаніда Бяды выкліча справядлівае абурэнне ветэранаў Вялікай Айчыннай, а таксама таго, што на ёй размешчаны шматкватэрныя жылыя дамы, арганізацыі і ўстановы, якім давядзецца пераафармляць дакументы на правы ўласнасці і домаўладання, асабовыя рахункі і юрыдычныя адрасы, камісія вырашыла захаваць наяўную назву.

У 2010 годзе ўжо сама Камісія вырашыла вярнуць цэнтру Мінска гістарычны выгляд. Пачалі вельмі асцярожна. У прыватнасці, вырашылі толькі шэсць невялікіх вуліц у самым цэнтры назваць па-іншаму: вуліцу Вызвалення — вуліцай Васкрасенскай; вуліцу Герцэна — Бернардынскай; Камунальную набярэжную — Траецкай; вуліцу Дзімітрава — Пятніцкай; Віцебскую — Няміга-Ракаўскай; Рэвалюцыйную — Койданаўскай.

Акрамя гэтага, згодна з рашэннем Камісіі, праектаваная вуліца ў межах вуліц Чалюскінцаў — Катоўскага — Ушакова — Лазо — Адэскай павінна была атрымаць імя аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі ў гады ВАВ — Віктара Лівенцава. Брацкія магілы ахвяр Першай сусветнай вайны афіцыйна назвалі «Мінскія брацкія могілкі 1914–1918 гг.», безымянны сквер у межах вуліц Кашавога і Ванеева (ля будынка аўтавакзала «Усходні») назваць «сквер імя Амара Хаяма». Але з гэтага атрымалася толькі назваць сквер, новую вуліцу і перайменаваць набярэжную.

Фінансавыя затраты — галоўны і амаль непераадольны аргумент пры адмоўных адказах, звязаных з перайменаваннем вуліц. Але застаецца пытанне: якія назвы атрымаюць новыя вуліцы Мінска?

Толькі ў 2012 годзе Камісія разглядала больш за 40 зваротаў з прапановамі надаць новым вуліцам імёны вядомых людзей. У іх ліку — Казімір Малевіч, Марк Шагал, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Стэфанія Станюта, Тадэвуш Касцюшка, Амар Хаям, Фрэдэрык Шапэн. У лютым 2018-га Камісія мела ўжо, па словах чыноўнікаў, цэлы спіс людзей, у гонар якіх грамадзяне хацелі б назваць вуліцы. Агулам у ім каля 60 імёнаў. Гэта мастак Міхаіл Савіцкі, Тадэвуш Рэйтан, які выступаў супраць падзелаў Рэчы Паспалітай, гісторык Мікалай Улашчык, народны паэт Рыгор Барадулін, мінскі губернатар Захар Карнееў, дзеячы нацыянальнага адраджэння браты Луцкевічы, полацкі князь Усяслаў Чарадзей і іншыя. Асобныя грамадзяне прапаноўвалі назваць сталічныя вуліцы Грунвальдскай (у гонар знакамітай перамогі 1410 года), Тбіліскай і Белградскай. І хоць новых вуліц у Мінску ў год узнікае не шмат, новыя назвы ўжо адлюстроўваюць жаданне людзей захаваць памяць пра «беларускі свет», павагу да яго асобаў.

**У лютым 2018-га Камісія мела ўжо цэлы спіс людзей, у гонар якіх грамадзяне хацелі б назваць вуліцы. У ім каля 60 імёнаў. І хоць новых вуліц у Мінску ў год узнікае няшмат, новыя назвы ўжо адлюстроўваюць жаданне людзей захаваць памяць пра «беларускі свет», павагу да яго асобаў**

### У заключэнне

Чытач спытае — ну і ў чым тут «дзікавосы»? 29 студзеня 2015 года Аляксандр Лукашэнка на прэс-канферэнцыі для беларускіх і замежных СМІ падкрэсліў важнасць незалежнасці краіны, у тым ліку і ад «рускага свету»: «А калі ёсць тут [людзі], якія лічаць, што беларуская зямля — гэта частка, ну, як яны кажуць зараз, «рускага свету» і ці ледзь не Расіі, — забудзьцеся». Як бы тую ж думку, але ўжо ў новай інтэрпрэтацыі Лукашэнка выказаў 28 красавіка таго ж года выступаючы са штогадовым пасланнем да парламента: «Рускі свет — гэта не пра нас. Мы рускія людзі, але гэта не значыць, што мы расіяне. Мы — беларусы».

У Брэсцкай крэпасці 2 чэрвеня 2018 года ён у чарговы раз выказаўся адносна расійскай інтэрпрэтацыі гісторыі ВАВ: «Апошнім часам я адсочваю гэтую тэндэнцыю, назіраю. Усё больш інфармацыі менавіта на гэтую тэму. Камусьці карціць, што дзіўна — у Расіі, прыватызаваць гэтую перамогу. Як быццам не было на вайне іншых — беларусаў, украінцаў, грузін, армян, таджыкаў, туркмен…».

Аднак, ідучы на працу, вяртаючыся дадому ў грамадскім транспарце, адпраўляючыся на адпачынак, любы грамадзянін Беларусі кожны дзень бачыць і чуе рускую мову, герояў «рускага свету» — гістарычных, культурных, ваенных. Ён міжволі, па Фрэйду, — ужо на ўзроўні падсвядомасці з'яўляецца часткай «рускага свету». І як бы ні казаў кіраўнік дзяржавы, у такіх умовах «свайго пункту гледжання на свет» не будзе.

***P.S.** Невыпадкова кажуць, што беларусы — народ своеасаблівы. За стагоддзі ён выпрацаваў уласныя формы супраціву — каб выжыць у любым «свеце». Супраціўляецца ён і насаджэнню «рускага свету» — але па-свойму. «Вось, напрыклад, Герой Савецкага Саюза Юрый Аляксеевіч Гагарын хай і не меў ніякага дачынення да Мінска, але вуліцу імя сябе атрымаў зусім адмоўную. Ужо лепш ніякую, чым такую — брудную, у прыватным сектары па кальцавой у раёне Навінак», — адзначае блогер Дзяніс Бліціч.*

*Які свет, такое і ўшанаванне, такая і памяць.*




Фота www.yaplakal.com

# «Яны сустракаюцца». А як казалі нашы продкі?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У выдавецтве «Беларуская навука» выйшла кніга даследчыцы Яніны Грыневіч «Беларускія пазаабрадавыя лірычныя песні». З яе можна даведацца пра семантыку і паэтыку вобразаў у песнях, іх вытокі і развіццё.**

Кніга стала плёнам шматгадовай даследчай працы Яніны Грыневіч. Выданне ўтрымлівае раздзелы, прысвечаныя гісторыі збірання і вывучэння пазаабрадавых лірычных песень, іх семантыцы і паэтыцы, паходжанню і гісторыі развіцця. У кнізе змешчаны таксам слоўнік мовы лірычных песень. З яго можна даведацца, напрыклад, што акрамя слова «кахаць» у песнях сустракаюцца сінонімы «любіць» і «куміцца», а адпаведнікі сучаснага «сустракацца» ў традыцыйнай лірыцы — «любіцца» і «кахацца».




З дапамогай слоўніка можна паглядзець, у якім кантэксце фігуруюць у лірычных песнях самыя розныя персанажы, з'явы і рэчы.

Прапануем развагі Яніны Грыневіч, якімі яна дзялілася з НЧ падчас падрыхтоўкі кнігі.

Варта пачаць з таго, што такое лірычныя песні і вобразы ў іх. Народная лірыка — гэта сукупнасць песень, не прымеркаваных да абрадаў каляндарнага ці сямейнага цыклаў. Да лірычных песень адносяцца любоўныя, сямейна-побытавыя і сацыяльна-побытавыя. У цэнтры лірычнага твора — чалавек са сваім асабістым лёсам у пэўных тыповых жыццёвых сітуацыях. Існаванне чалавека асэнсоўваецца праз прызму перажыванняў і пачуццяў. Асобна ад лірычных песень звычайна разглядаецца позні гарадскі раманс (яго часам яшчэ завуць «жорсткі»). У адрозненне ад балад, у лірыцы ідэйна-эмацыйны пачатак пераважае над апавядальным. Мы не можам казаць пра паўнавартасны сюжэт лірычных песень, хутчэй пра пазнаку сюжэтнай сітуацыі.

Вобраз у лірычнай песні, як і ў фальклоры ўвогуле, звычайна шматзначны. Семантыка (значэнне) вобразу залежыць ад кантэксту, прыметнікаў і дзеясловаў, якімі суправаджаецца слова. Колькасны аналіз, праведзены на аснове класічнага зборніка беларускага песеннага фальклору «Лірычныя песні» (складальнік Ніл Гілевіч), дэманструе цікавыя звесткі — паказвае, як часта тое ці іншае слова ўжываецца ў песнях.

На першым месцы па колькасці згадак стаіць вобраз каня — увасабленне багацця і дастатку. У пазаабрадавых лірычных песнях ён выступае асноўным сродкам перамяшчэння лірычнага героя. Калі лірычная гераіня мае вала і каня — гэта значыць, што яна з заможнай сям'і. У той жа час конь выступае як атрыбут персанажа мужчынскага полу, «бел-малойчыка», салдата, рэкрута, казака. Ён можа быць верным спадарожнікам, сябрам, з якім лірычны герой вядзе доўгія размовы. Пакупка каня ў творах наўпрост звязана з паходам на вайну: «— Ой, каму ж ты, айчэнька, купляеш канічэнька і так сільненька плачаш? — Для цябе, мой сыночку, паедзеш на вайночку, на чужую старону».

Акрамя таго, конь выступае як сувязны паміж малойчыкам, які захварэў ці паранены, ці нават памірае, і яго сям'ёй. Гаспадар дае каню наказ паведаміць сваякам альбо жонцы, што ён ужо не вернецца.

Вобраз сімвалізуе мужчынскі пачатак, мае эратычны падтэкст. Калі хлопец просіць дзяўчыну «напаіць каня», то мы разумеем, што дыялог носіць сімвалічны сэнс, гэта такі кшталт флірту ў традыцыйнай культуры.

Вобраз долі — другі паводле частотнасці. Лірычныя песні сфакусаваныя на пытанні пра гэту быційную катэгорыю, канстанту і каштоўнасць, якая факусуе ў сабе ўсе астатнія. У той жа час, фатальнасць лёсу не абсалютная: долю, дадзеную ад нараджэння, можна змяніць у вузлавыя моманты жыцця (вяселле). У лірычных песнях добрая доля звязваецца з заключэннем удалага шлюбу, узаемным каханнем. Нядоля для мужчыны — гэта рэкруцкі набор, салдацкая служба, ад'езд на чужыну, а для жанчыны — страта вянку, які сімвалізуе цнатлівасць, а таксама няўдалы шлюб (са старым, нялюбым). Доля дзяўчыны, што выходзіць замуж за старога, напрыклад, настолькі горкая, што параўноўваецца ў песнях з палыном.



**Выканальніцы лірычных песень, «Малёўскі фальклорны гурт» в. Карцэвічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці.** Фота Яніны Грыневіч

Наступная тройка вобразаў наўпрост звязана з ландшафтам — сад, поле і дарога.

Вобраз саду, у першую чаргу, суадносіцца з родным домам, з акультуранай прасторай, там знаходзяцца птушачкі, кветкі, ягадкі, цукровы гарох. З аднаго боку, у песнях сад выступае як месца для спатканняў, а з другога, — гэта мяжа між «сваёй» і «чужой» прасторай. Вобраз саду ўваходзіць у асацыятыўныя шэрагі кшталту «поле — мора — лес — сад», якія пазначаюць мяжу.

Вобраз поля, з аднаго боку, увасабляе акультураную, засвоеную чалавекам прастору, месца спатканняў і сустрэч, а з другога боку — локус, звязаны з іншасветам. У некаторых кантэкстах поле — станоўчы вобраз («шырокае», «радзімае»), а ў іншых — наадварот, поле «нерадзімае», «голае», «камяное». Лірычная гераіня нярэдка выпраўляецца ў чыстае поле шукаць добрай долі, якой не атрымала пры нараджэнні.

З вобразам дарогі так ці інакш звязаны амаль усе персанажы лірычных песень: салдата чакае дарога на вайну, чумака, бурлака — дарога ў Крым ці ў Адэсу, маладую дзяўчыну — дарога да шлюбу, пасля — у мужаву сям'ю. Што цікава, у беларускіх лірычных песнях даволі шырока прадстаўлены ўкраінскія тапонімы. Акрамя Крыма і Адэсы, гэта Кіеў, Львоў, сама Украіна. Львоў і Кіеў маюць значэнне культурнага цэнтра, у той час як Крым звязаны з чумацкім і бурлацкім промысламі і ўвасабляе «чужую старану», дзе героя чакаюць розныя няшчасці: хвароба, смерць.

У песнях дарога выступае месцам дзеяння, з ёй напрост звязаны матыў расстання. Ад'езд «на чужую старану» — гэта «вялікая дарога», што суадносіцца са шляхам у іншасвет. Такому падарожжу папярэднічае бацькоўскае павучанне з надзеяй на вяртанне, а некаторыя прыкметы, напрыклад, паводзіны каня, могуць стаць лёсавызначальнымі:

*Выпраўляла маці сына ў*
*бальшую дарогу.*
*Едзь, едзь, мой сыночак, ды*
*назад вярніся.*
*А бог знае, бог ведае, назад ці*
*вярнуся:*
*Сярод двара шырокага мой конь*
*спатыкнуўся...*
*Калі, калі, мой сыночак,*
*прыйдзе ка мне ў госці?*
*Тады, тады, мая мамка, прыйду*
*к табе ў госці,*
*Як вырасце травічачка на*
*новым памосце.*

Адказ лірычнага героя, як бачым, можа поўніцца горкім усведамленнем, што ён не вернецца: «Тады я вярнуся, калі вярба на камні разаўецца».

У песнях дарога сімвалізуе таксама асабісты лёс і долю чалавека («дарогу жыцця», «жыццёвы шлях»). Зарослая, замецёная дарога ўвасабляе перашкоды. Часта маладзіца, што пераехала ў сям'ю мужа, хоча вярнуцца дадому, аднак «дарога пазавісала калінкай, дуб'ём-бярэзнічкам».

Часцей за вобразы іншых раслін у песнях сустракаецца каліна. Яна ўвасабляе дзявоцкасць, дзяўчыну перадшлюбнага ўзросту, замужніцу, маці. «Каліна-маліна» — гэта маладая прывабная дзяўчына ў росквіце жыццёвых сіл. Разам з тым, вобраз каліны мае сталую сувязь з іншасветам (у песнях пад ёй знаходзяцца забіты казак, салдат і нават персаніфікаваная Смерць: «Іду лугам-далінаю, сядзіць Смерць пад калінаю»). Вобраз каліны нярэдка звязаны з матывамі нешчаслівай долі, няўдалага шлюбу.

Далей паводле частаты ўжывання ў лірычных песнях — вобразы, звязаныя з увасабленнем чалавека і яго цела. У творах яны выступаюць сімваламі пэўных абстрактных паняццяў: галава — розуму; сэрца — кахання; твар, вочы, бровы, кудры ўвасабляюць прыгажосць, маладосць. Асацыятыўныя шэрагі «галава — плечы», «галава — сэрца», «душа — сэрца» ўвасабляюць чалавека ў цэлым. Галенне галавы суадносіцца з забраннем у рэкруты, салдацкай службай. Выразы «даваць руку», «звязваць рукі» маюць значэнне «браць шлюб», «ламіць рукі» — тужыць, сумаваць.

Разгадванне сімволікі песень — надзвычай цікавая і даволі ўдзячная справа, калі памятаць пра кантэкст і шматзначнасць фальклорных вобразаў. Так што камусьці будзе цікава кніга Яніны Грыневіч.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №384

Падпісана да друку 13.07.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.